

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 9(104) Верасень 2002 September Год выд. 10.


## Беларусы сьвету – супраць новага законапраекту

Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" катэгарычна нязгоднае з праектам новага закону "Аб суайчыньніках...", які знаходзіцца цяпер на разглядзе Савету Міністраў. "У праекце размова вядзецца пра "суайчыньнікаў", што зьнішчае само вызначэньне "беларус" у адносінах да беларусаў замежжа" - гаворыцца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным "Бацькаўшчынай" 28-га жніўня. З прычыны ўвядзеньня тэрміну "суайчыньнік" закон пакідае без увагі каля мільёну этнічных беларусаў - лічаць сябры згуртаваньня. Між тым, аўтары законапраекту - Нацыянальны цэнтар законапраектнай дзейнасьці пры прэзыдэнце - ігнаруюць усе заўвагі й прапановы, выказаныя "Бацькаўшчынай".

Пра неабходнасьць прыняцьця асобнага закону дачынна беларускае дыяспары гаварылі даўно. Яшчэ ў жніўні мінулага году "Бацькаўшчына" накіравала ўраду й Нацыянальнаму Сходу адмысловую праграму "Замежная беларуская супольнасьць у 21-м стагодзьдзі", а юрыдычны аддзел Згуртаваньня нават распрацаваў уласны праект закону "Аб стасунках РБ зь беларусамі замежжа".

Напачатку 2002 году Нацыянальны цэнтар законапраектнай дзейнасьці пры прэзыдэнце запрасіў "Бацькаўшчыну" паўдзельнічаць у працы над праектам закону "Аб суайчыньніках, якія пражываюць за мяжой". Першая "вэрсія" праекту, падрыхтаваная Нацыянальным цэнтрам, зьявілася ў чэрвені гэтага году. "Бацькаўшчына" на правох суўдзельніка працы выступіла з шэрагам прынцыповых заўваг і прапанавала ўзяць за аснову свой варыянт тэксту.

Аднак прыканцы жніўня законапраект быў ужо накіраваны ў Савет Міністраў - без уліку прапановаў "Бацькаўшчыны" й пад назвай "Аб суайчыньніках, якія пражываюць за мяжой". Згуртаваньне беларусаў сьвету лічыць, што "прыняцьцё праекту закону "Аб суайчыньніках..." справакуе раскол у асяродку беларускай дыяспары". Пра гэта гаворыцца ў адмысловым прэс-рэлізе, распаўсюджаным 28-га жніўня.

"Па водгуках, якія "Бацькаўшчына" атрымлівае ад суполак... з Расеі, Польшчы, ЗША й іншых краінаў, значная частка беларусаў, што жывуць за мяжой, выступае катэгарычна супраць вызначэньня іх як "суайчыньнікаў неакрэсьленай нацыянальнасьці". Выкарыстаньне тэрміну "суайчыньнік" у праекце закону прывяло да таго, што фактычна пакінуты без увагі каля мільёну этнічных беларусаў, якія пражываюць на Беласточчыне, Віленшчыне, Латгаліі, Смаленшчыне й інш., да поўнага ігнараваньня каля 200 беларускіх грамадзкіх арганізацыяў, дзейных у 73 краінах сьвету".

Згуртаваньне беларусаў сьвету лічыць, што дзяржаўны законапраект "носіць дэкляратыўны характар" і зьвяртаецца да грамадзкасьці Беларусі й беларускай дыяспары з просьбай паспрыяць прыняцьцю "дзейснага" закону, які ўлічваў бы "рэальныя патрэбы беларускай дыяспары".

**************************************************



Помнік Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Полацку

## "МАСКВА МАЕ ЧАС, КАБ ПАВОЛІ ЦІСНУЦЬ НА ЛУКАШЭНКУ"

Паводле меркаваньня аўтара дасьледаваньня, эксперта Цэнтру ўсходніх дасьледаваньняў у справе Беларусі Рафала Садоўскага, Уладзімер Пуцін насамрэч ня хоча, каб Беларусь фармальна пазбавілася незалежнасьці. Спадар Садоўскі лічыць, што расейскі прэзыдэнт ціснe на Лукашэнку, каб дамагчыся перадусім зьменаў у беларускай гаспадарцы і кантролю над ёй, што мусіць зьменшыць кошт утрыманьня састарэлай беларускай эканомікі.

"Расея і так мае гарантаваны і моцны палітычны кантроль над Беларусьсю, якая застаецца выключна ў сфэры ўплыву Масквы", – адзначаецца ў дасьледаваньні.

У сваю чаргу, нежаданьне Лукашэнкі пазбаўляцца татальнага кантролю над беларускай эканомікай і ўпартыя прапановы стварэньня саюзнай дзяржавы на роўных з Расеяй, паводле спадара Садоўскага, прывялі "да патавай сітуацыі" ў адносінах паміж Менскам і Масквой.

Як жа падзеі будуць разгортвацца далей? Адказвае экспэрт Варшаўскага Цэнтру ўсходніх дасьледаваньняў у справе Беларусі Рафал Садоўскі:

"Мэтай Расеі ёсьць перадусім падвышэньне прыбыткаў, якія яна мае ад залежнасьці Менску. Беларускае пытаньне, аднак, ня ёсьць гарачай праблемай у расейскай замежнай палітыцы. На мой погляд, Масква задаволеная цяперашняй сытуацыяй, і яна мае час, каб паволі ціснуць на Лукашэнку, дамагаючыся патрэбных саступак. Мяркую, што ўключэньне Беларусі ў склад Расеі цяпер немагчымае. Па-першае, Масква пакуль ня мае дастаткова сродкаў, каб гэта зрабіць, а па-другое, гэткі крок выклікаў бы супраціў міжнароднай супольнасьці, асабліва Захаду. Таксама ня варта забываць, што Беларусь ёсьць краінай-заснавальніцай ААН і іншых міжнародных арганізацыяў".

**************************************************

## ЛІТОЎСКІ ДРУК ПАДАЕ ПАЛІТЫЧНЫ АНАЛІЗ БЕЛАРУСКА-РАСЕЙСКІХ СТАСУНКАЎ

У літоўскай прэсе зьявіўся першы водгук на сытуацыю, якая зараз склалася у стасунках Беларусі з Расеяй. Палітычны аглядальнік, намесьнік рэдактара вядучага у Літве штодзённіка "Lietuvos zinios" Арас Лукшас аналізуе прапановы прэзыдэнта Расеі, якія у Літве параўноваюць з аншлюсам і падае тлумачэньні мяўчаньня большасьці літоўскіх палітыкаў: "Магчыма, з палітычнай мапы Эўропы за адну ноч зьнікне незалежная дзяржава. Ці не прачнецца Літва аднойчы у цэнтры новай і вялікай Расеі? Літоўскія палітыкі гэтага як-бы і не заўважаюць. -- маўляў, што яшчэ чакаць ад суседа-дыктатара, а Пуцін дзейнічае пасьлядоўна".

Пысіўнасьць літоўскіх палітыкаў у "беларускім пытаньні" параўноўваецца з падобным стаўленьнем да таго, што "расейскі капітал няўхільна ўмацоўвае свае пазыцыі ў Літве", а "левыя" пра-расейскі скіраваныя палітыкі дамінуюць ў Сойме".

"Расейцы ідуць. І да межаў Літвы, і ў саму Літву. Таму у Літве і не пачулі землятрусу, эпіцэнтар якога быў у Менску – ад тупату абуранага прэзыдэнта Беларусі. А таму было ад чаго тупаць – У.Пуцін фактычна прапанаваў "бацьку" аншлюс: далучыцца да Расеі і жыць у чаканьні Расейскай Канстытуцыі, -- вядома, пасьля плебісцыту.



**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пpycкі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Сакрат ЯНОВІЧ (Беласточчына)

# *ЗАБІВАНЬНЕ БЕЛАРУСІ: КУПАЛА*



Мінула шэсьцьдзесят гадоў ад забойства ў Маскве, спецслужбамі СССР, класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы (літаратурны псеўданім Яна Луцкевіча). Загінуў 28-га чэрвеня 1942 году. Тадышнія цывільныя ўлады зрэагавалі на гэтае здарэньне амаль безуважліва, маючы за сьпіною арміі Гітлера. Распусьцілі, вядома, чуткі, што гэтае злачынства справа рук гітлераўскае агентуры ў Маскве, бо паэт заклікаў да змаганьня з агрэсарам і акупантам. Іншую вэрсію чутак распушчана ў элітных колах, акцэнтуючы схільнасьць у шасьцідзесяцігадовага рамантычнага мужчыны да "віна і жанчын". Купала меўся загінуць, падаючы з высокага паверху ў глыбокі прагал усходаў у тым старасьвецкім гатэлі сталіцы. Нібы адштурхнула яго моцна ад сябе гордая і прыгожая афіцыянтка; якраз праходзіла побач і паэт не паўстрымаўся... ушчыпнуў яе. Адлятаючы на поручні, ён па-п'янаму перакуліўся бяздарна і забіўся... Пасьля ніхто толкам ня мог сказаць, ці было нейкае сьледзтва, хоцьбы дзеля людзкога прыліку; тае афіцыянткі ня бачылі ні перад няшчасным выпадкам ані потым. Хто яна? Сакрэтная працаўніца, накіраваная па заданьні НКВД?

Пісьменьнікі, што разам з Купалам бяседзілі тады ў гатэльным нумары, успаміналі з агляд-каю, што яму пазванілі па тэлефоне і ён адразу выйшаў, ня вельмі тлумачачы чаму. Нябожчык Барыс Сачанка праўдападобна выкрыў імёны забойцаў, ну і доўга не пажыў... Можа будуць калі даступныя сакрэтныя архівы і натрапяць у іх дасьледнікі на дакумэнтальныя доказы; хоць гэта малаверагодне. Пакуль што ўсяму ключ тая невядомая афіцыянтка, якая зьявілася і зьнікла, нібы дух.

Прычынаў дзеля ліквідацыі Янкі Купалы НКВД мела надта! Ужо ўпачатку трыццатых гадоў Купалу пасадзілі ў сьледчы ізалятар, намагаючыся мукамі зрабіць з яго правадыра антыбальшавіцкага падпольля — з судовым фіналам у выглядзе паказнога працэсу. Прыдумана яму нават арганізацыю, быццам глыбока законспіраваную: Саюз Вызваленьня Беларусі па ўзору фіктыўнага Саюзу Вызваленьня Ўкраіны, ствараючага такім чынам падставу для арыштаў і расстрэлаў у Кіяве патрыётаў. У Беларусі маштабы меншыя, але Купала падыходзіў ім: слаўны і шляхецкага паходжаньня (бацька паэта быў фальварковым арандатарам).

У настроях 1920 г. Купала лічыўся паланафілам, аб чым як-бы сьведчыла ня толькі ягонае каталіцкае веравызнаньне як нашчадка шляхецкага роду з сярэдзіны Беларусі, але і пачатковая польскамоўная творчасьць. Па свёй прыродзе будучы рамантыкам, у творчасьці пранікся ён духам велічы Белай Русі, яе гераічнай гісторыі. У напале беларускага адраджэньня пераўвасобіўся ў вядучага ідэёлага яго з харызмай прарока! Да сёньня ўдаецца некаторым тэатрам паставіць, хоць адзін раз, слынную п'есу Купалы "Тутэйшыя", капітальны спектакль пра ўсходні і заходні каляніялізмы ў Беларускай Зямлі. Гэты твор быў напісаны ім у 1924 годзе, калі Янка Купала канчаткова пазбыўся ілюзіі наконт заходніх ці ўсходніх "братоў". Як некалі палякі, так і расейцы ажно цяпер не прызнаюць беларусаў за народ, нацыю ("Белоруссы — это теже русские" — кажа Лукашэнка).

Тадышні чырвона-партыйны Менск не дараваў Купалу маналёгаў Усходняга Вучонага ў "Тутэйшых", хоць прыйшліся да спадобы беларусаедзкія маналёгі Заходняга Вучонага (чытай: польскага погляду на беларусаў).

Купалу сьніліся сны аб Беларусі — незалежнай і непадзельнай. Тым часам існавала дзіўная БССР на савецкім баку, і паўкаляніяльныя Крэсы на польскім. Інакш не магло быць у эпоху, у якую пра ўсё вырашалі не рацыі і праўда, але наступальныя мільённыя арміі (колькасьць войскаў Пілсудзкага набліжалася да мільёна салдатаў). Беларусь блукала па небе Ўтопіі. Запозьненая ва ўсіх цывілізацыйных адносінах і з хілай нацыянальнай сьвядомасьцю, яна не мела моцы бараніць свае кроўныя інтарэсы. Яе дзялілі паміж сабою ўсе, хто хацеў; напрыклад, летувісам тыя бальшавікі і Ленін прызналі тэрыторыю ажно да Белавежы, а палякам пасьля аддавалі землі да Бярэзіны-рэчкі; гетманскія ўкраінцы прэтэндавалі на ўсё Палесьсе і на Беласток з паловай Сакольшчыны і з Ваўкавыскам.

Прычына ўсяму гэтаму якраз у "тутэйшасьці", у ненацыянальным існаваньні беларускіх народных масаў, у няздольнасьці адчуваньня імі Бацькаўшчыны. Летувіскі мужык пачуваў сябе, аднак-жа, перш за ўсё летувісам, а не мужыком. З беларусамі было, на жаль, дакладна наадварот. І ў гэтым наша бяда па сёньняшні дзень. Вычаўпаюць з намі, што каму ўздумаецца. Як доўга яшчэ тое будзе?! — існа купалаўскае пытаньне.

Купала прарочыў, чым у першую чаргу вырозьніваўся сярод паэтаў і пісьменьнікаў Маладое Беларусі на заранцы дваццатага стагодзьдзя. Адроджаная напрыканцы XIX ст. беларуская літаратура не выходзіла далей за плач над доляй-нядоляй мужыка, знаходзячыся на мяжы фальклёрнага пісьменства. Яе сьлёзныя опусы ні трохі ня чытаў той-жа мужык, ня ведаючы літараў. Імпанавала яна затое рознастайнай інтэлігенцыі з былых маёнткаў, насычанай моднай у Расейскай імпэрыі т. зв. верай у народ, у народную мудрасьць, і ў падобныя народніцкія глупствы, з якіх наогул безвынікова кпіў еўрапейскі Антон Чэхаў (напр. у "Вішнёвым садзе").

Янка Купала ўсяго ацёрся аб тую наіўную народніцкую ідэялёгію "вёскі як рухавіка цывілізацыі сьвету". На беларускага мужыка глядзеў ён без мэтафізікі і містыкі, пераканаўча ўсьведамляючы менавіта яму старую праўду, што яго беднасьць бярэцца з дурнаты, а тая-ж дурната з беднасьці. Гэта не квадратура кола, але тлумачэньне зьявы. Выйсьце з таго бачыў не "в безумном русском бунте" (паводле Пушкіна), не ў пугачоўшчыне і славяскім бальшавізьме, але ў канструктыўнай нацыянальнай працы. Ня будзе дабра, пакуль мужык ня станецца сьвядомым беларусам. Трагедыя купалаўскай навукі ў тым, што мужыку так і ня было наканавана стацца поўным беларусам і, затапляючы пасьля гарады, сялянскі клас пераўтварыўся ў натоўпы бязродных люмпенаў, хоць і "образованных" ужо (Салжаніцын увёў у расейскую мову панятак "образованщина" у адрозьненьне ад інтэлігентнасьці, напр. "он, конечно, инженер, но болда и дурак").

Дасьледчыкі творчасьці Янкі Купалы чамусьці не прыкмячаюць таго, што народнасьць у ёй далёкая ад бескрытычнага культу, міту народу. Беларусь пагразнула ў клясычнай сітуацыі каленіі, з якое можа выратавацца адзіна магчымым шляхам нацыянальнага адраджэньня, барацьбою за права мець Бацькаўшчыну і быць гаспадаром яе. А гэта-ж ужо нацыянальная ідэя! Без уласнае дзяржавы няма перспектываў на шчасьце; сацыяльная рэвалюцыя ў 1917 годзе разьлілася па ўсёй Расеі, а чым яна закончылася, мы цяпер бачым. Галоце Бацькаўшчына там, дзе хлеб. З той, аднак, істотнай папраўкаю, што ня свой, але знойдзены, хлеб аказваецца заўсёды чужым і будуць ставіць табе за яго варункі.

Мужык у Купалы ня ёсьць заплаканым недарэкаю, евангельскім зьніштажэньнем, але сьвядомым свае галечы і разумовай адсталасьці бунтаром. Званаром Беларусі! Абуджэньнем яе. У гэтым, думаю, крыніца беларускасьці ў асобе паэта. У нязгодзе на нялюдзкі лёс краю, ягоных насельнікаў. Купала ня меў грунтоўнай адукацыі, скажам, як Багдановіч; даходзіў да беларускай сьвядомасьці ня столькі ад "тоўстых кніг", колькі менавіта ад закаханасьці ў Беларускую Зямлю, ад палкага патрыятызму. Ня мог сьцярпець па-марцінкевічаўску дуралобнага прыстава паліцэйскага, прысланага ў мястэчка аднекуль з-пад Волгі, ці самаапалячэўшага пана на тысячах дзесяцін, якому напляваць было на ўсё, жывучы ў Парыжы, не вылазячы з шумных курортаў Еўропы. Заганарыліся паны Польшчаю, бо інстыктоўна баяліся вёскі. Паэт можа і перажываў хвіліны спадзяваньняў на маскоўскі камунізм, дыктатуру прастаты, аднак хутка мусіў пераканацца, што ў лёсах Беларусі гэта нічога ня зьменіць, і што ўлада папраўдзе засталася тая-ж, імперская са "звяздою" замест духглавага царскага арла. Праз некалькі гадоў ад усталяваньня бальшавікоў піша ён "Тутэйшых", у 1924-м, а не, скажам, у 1920-м. Як кожны ідэяліст, Янка Купала па-хрысьціянску верыў у магутнасьць Слова (са Сьвятога Пісаньня: напачатку было Слова, а Словам быў Бог). Верыў у мужыцкую Беларусь, але іначай, чымсьці народнікі Кастусь Каліноўскі. Быў сьведкам ўзьнікненьня мужыцкае Летувы або баўэрскай Латвіі, Эстоніі, былых немецкіх калёніяў, ці халопскай Фінляндыі, што вылезла з-пад швэдзкага ўціску, гаспадарча-палітычнага і затым культурнага. Еўрапейскія дзяржавы падзяляюцца на тры катэгорыі: з арыстакратычным радаводам, як Вялікабрытанія, з мяшчанскім — як Чэхія, і з сялянскім — як тая-ж Летува. Толькі сялянскія пасьлясавецкія рэспублікі ўсё маюць праблемы са сваім існаваньнем; упэўнена выйшлі на самастойнасьць мяшчанская Арменія, князёўская Грузія.

Я ведаю саветаў і чуцьцём скуры знаю, што заеліся яны на Янку Купалу ўжо тады, у напісаньне "Тутэйшых". Чакалі зручнага моманту, зьбіраючы ў дас'е ўсякія матэрыялы пра песьняра. Можна ўявіць сабе, як вытрэшчваліся агенты тайных службаў — ГПУ, потым НКВД — на Купалавы тэксты з вакольля дваццатага году: "Незалежнасьць", "Беларускае войска", "Справа беларускага нацыянальнага гімну", "Думкі з пабыцьця ў Фінляндыі...", "Беларускі сьцяг уваскрос!", "Адбудова Беларусі". Ці трэба дадаваць, што ад адных тых загалоўкаў энкавэдзістам валасы падымаліся дыбам. Купала вызнаваў прынцып: свабоду здабываюць мэтанакіраванай натужлівай працаю або і барацьбою, бо падораная кімсьці непазьбежна канчаецца няволяю, тым жудасьнейшай, што па добрай волі як быццам. Беларусь без вольных беларусаў немагчымая як краіна дабрабыту і духоўнага багацьця. Вучыць сусьветная гісторыя: жыць у акупацыі — гэта ледзь перабівацца з дня на дзень, з месяца на месяц. Праца любіць свабоду, як расьліна сонца і ваду. Тады будуць буйныя плады ад яе.

Чаму так важная незалежнасьць? Дурань той, хто лічыць яе фанабэрыяй нацыяналістаў. Дзякуючы незалежнасьці край працуе на свой хлеб. Дзякуючы незалежнасьці край ня ёсьць ускраінаю іншага краю. Ня было чуваць пра такі цуд, каб пэрыферыя квітнела і малаком-мёдам аблівалася, а цэнтр сох і марнеў тым часам... Памыляюцца тыя, хто лічыць беларусізацыю ў БССР пасткаю тайных службаў дзеля лоўлі і вынішчэньня беларускіх патрыётаў. Прычыны згортваньня беларусізацыі значна глыбейшыя, чым паліцэйскія, вяжуцца яны з пройгрышам гэнеральнай лініі Троцкага, які Савецкі саюз трактаваў як часовы трампалін для скоку ў глябальную рэвалюцыю. Перамога Сталіна — гэта перамога адваротнай канцэпцыі, менаміта, будовы камуністычнай дзяржавы ў адной Расеі, а не ў цэлым сьвеце, што аказалася Троцкаму нерэальнае. У сувязі з тым Савецкі Саюз, як кожная дзяржава, цэнтралізаваўся і беларусізацыя была перашкодаю гэтай цэмэнтацыі. Гадаваўся т. зв. новы тып чалавека, савецкі. Янка Купала ў гэткім становішчы, як і, наогул, нацыянальная беларуская літаратура, апынуліся па-за дзяржаўным рахункам і калькуляцыяй, як нешта неперспэктыўнае. Раней або пазьней прызначаныя на звалку. Быць маласавецкім беларусам, а яшчэ страшней: гаварыць пабеларуску! — вось грамадзкая атмасфэра канца трыццатых гадоў, калі, напрыклад, спасярод соцень сяброў беларускай пісьменьніцкай арганізацыі пакінута неарыштаванымі ўсяго дванаццаць-трынаццаць. Гінулі некамуністы і камуністы, бо новай савецкай дзяржаве патрэб-

ныя цалкам іншыя кадры, не беларускія, але імпэрскія.

Высяканьню пад корань беларушчыны пачалі, вось, штораз перашкаджаць гістарычныя падзеі. Трыццаць дзевяты год праміну́ў пад знакам ліквідацыі Польшчы. У саракавым — ліквідавалі прыбалтыйскія дзяржавы, спрабоўваючы дакакаць мілітарна і Фінляндыю. У сорак першым — напалі немцы. Зацішней стала ў сорак другім — немцаў адагналі далёка ад Масквы і быў час ды настрой у нейкім кабінэце заняцца ўрэшце ліквідацыяй Янкі Купалы. Наклалі-б галавою і наступныя клясыкі беларусага пісьменства (Колас, Крапіва), але-ж ізноў ня было калі: Сталінградзкая бітва, Сталінская адліга, вяртаньне царскіх пагонаў афіцэрам і ўстанаўленьне капэлянаў у арміі, зьмена слоўніка з камунізуючага на "братья и сёстры".

У пасьляваеньне сталіністы да таго аднова размахнуліся, што сьмяротна перапужалі ажно сваю блізкую дварню, якая і прыкончыла Ёсіпа Вісарыёнавіча. Памёр кесар, пачала паміраць імперыя. Сёньняшняя Беларусь, хоць-бы і ў лукашэнкаўскім варыянце, у тую пару нават і не сьнілася каму. За такія мроі смутна чакала Калыма. Беларусь, памалу і марудна, самарэалізоўваецца аднак-жа па запаветах геніяльнага Янкі Купалы. Пэўна і сам Ён не разьлічваў на хутчэйшыя тэмпы, дакладна разумеючы беларускія рэаліі.

Дадам ад сябе: надыйшла эпоха, калі клясычны імпэрыялізм перастаў аплачвацца. Тэхналягічныя рэвалюцыі перакрэсьлілі сэнс тэрытарыяльных здабыткаў. Прыкладам кажучы, бюджэт Нідэрляндаў з абшарам крыху большым за Гарадзеншчыну роўны сёньня бюджэту аж велізарнай Расейскай Федэрацыі. Гэта таму — па волі Боскага часу Беларусь асуджаная на незалежнае існаваньне на мапе Еўропы.

Янка Купала — гэта прарок...

(Аўтарскі пераклад з польскай мовы і дапаўненьні публікацыі ў "Czasopisie" № 7-8 і ў "Gazecie Wyborczej" ад 29 ліпеня г. г.)

## *Шэдэўры Купалавай паэзіі*

**Н. КУДРЭЙКА** (Звязда)

Да апошняга часу мы па-сутнасці не ведалі сапраўднага Янку Купалу. Самую важную, самую лепшую частку яго творчасці, калі не добрую яе палавіну, хавалі ад нас за сямю замкамі ў спецсховішчах, адгарадзіўшы народнага паэта ад народа. У кнігі Янкі Купалы дазвалялася ўключаць толькі яго другарадныя, менш характэрныя творы, а таксама тыя, што былі па сутнасці напісаны пад прымусам. У выніку мы мелі скажонае ўяўленне пра вялікага паэта.

Тым, хто хоча пазнаёміцца і ведаць сапраўднага, а не падцэнзурнага і не згвалтаванага Янку Купалу, убачыць ва ўсёй велічы генія нашай літаратуры, раім зазірнуць сёння ў кніжныя магазіны: на іх паліцах у класічнай серыі «Беларускі кнігазбор», якую з поўным правам называюць залатой бібліятэкай Беларусі, толькі што з'явіўся прыгожы, аб'ёмісты аднатомнік выбраных твораў Янкі Купалы (640 старонак з блокам фотаілюстрацый).

Першы раздзел кнігі склалі ўсе яго найбольш значныя вершы, вялікая частка якіх яшчэ нядаўна была пад забаронай. Яны — жывая гісторыя Беларусі першай паловы мінулага стагоддзя і адначасна паэтычная біяграфія самога аўтара. Усе важнейшыя падзеі часу знайшлі тут мастацкае ўвасабленне. Побач з грамадзянскімі вершамі чытач знойдзе ў кнізе чароўную лірыку паэта.

А хто не захоча яшчэ раз прачытаць такія шэдэўры купалаўскай паэзіі, як «Курган», «На Куццю», «Яна і я»? Гэтыя выдатныя паэмы беларускага класіка сталі бліскучым узорам ліра-эпічнага жанру для іншых літаратур свету.

У раздзеле «Драматычныя творы» змешчаны «Адвечная песня», славутая «Паўлінка» і раней забароненыя, а цяпер «рэабілітаваныя» «Тутэйшыя».

Надзвычай цікавы раздзел кнігі — «Публіцыстыка». У сваіх артыкулах Янка Купала з уласцівым яму запалам змагаецца за свабоду, за нацыянальныя і сацыяльныя правы свайго народа, за незалежнасць яго дзяржавы як ад заходніх, так і ўсходніх апекуноў, адстойвае ад русіфікатараў і паланізатараў аснову нацыі — прыгожую і самабытную беларускую мову. Напісаная ў пачатку XX стагоддзя публіцыстыка Янкі Купалы надзвычай актуальна гучыць і сёння.

Істотна дапаўняюць кнігу пісьмы паэта да блізкіх і знаёмых, да дзяржаўных дзеячаў. У іх — усе тыя турботы і хваляванні, пра якія ён пісаў і ў вершах, толькі тут выказваў іх непасрэдна, так, як думалася. Пісьмы Янкі Купалы дапамагаюць лепш зразумець і яго паэзію.

Сутнасць творчасці Янкі Купалы, яе веліч і прыгажосць добра раскрыў і паказаў ва ўступным артыкуле да кнігі народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

Склалі аднатомнік выбраных твораў Уладзімір Гніламёдаў і Алеся Шамякіна.

На жаль, патрэбная самым шырокім колам чытачоў, студэнтам, школьнікам і настаўнікам прадстаўнічая кніга Янкі Купалы выйшла невялікім тыражом, і не ўсе ахвотнікі змогуць яе набыць. А між тым гэты найбольш поўны аднатомнік выбраных твораў класіка беларускай літаратуры, у якім сабраны сапраўдныя дыяменты яго творчасці, мог бы стаць настольнай кнігай для кожнага беларуса.



**Ванкарэм Нікіфаровіч** (Чыкага, ЗША.)

# А ці зразумелі яго людзі?

## Пра Алеся Адамовіча: успаміны ды й ня толькі

Гэтага чалавека вось ужо некалькі гадоў як няма. Верыцца ў гэтае з цяжкасцю; здаецца, ён па-ранейшаму недзе жыве, дзейнічае, выступае з прамовамі, нарэшце, піша сваю незвычайную прозу і публіцыстыку. Я асабіста ўвесь час адчуваю яго прысутнасць. Прысутнасць як крыніцу ідэйных, духоўных ды і маральных арыентыраў. Да таго ж 3 верасьня гэтага году яму б споўнілася толькі 75 гадоў – не такі ўжо і вялікі ўзрост па нашых эмігранцкіх крытэрыях.

Алесь Адамовіч – значная постаць у беларускай літаратуры і культуры, у нашай беларускай духоўнасьці другой паловы мінулага стагодьдзя. Адным з першых на Беларусі ён на ўвесь голас адкрыта і катэгарычна пачаў гаварыць аб немагчымасьці хоць якой згоды з таталітарнай савецкай рэчаіснасьцю. Адным з першых у сьвеце (амаль адначасова з Жэлю Жэлевым, аўтарам кнігі "Фашызм", будучым прэзідэнтам у постсавецкай Балгарыі) Алесь Адамовіч пачаў і аналітычна, па-навуковаму, і эмацыянальна, па-мастакоўску дасьледваць усе грані блізкасьці і роўнасьці паміж фашызмам нямецкім, гітлераўскім і савецкім, ленінска-сталінскім. Адна толькі ягоная найвыдатнейшая аповесьць "Карнікі", нажаль, яшчэ не ацэненая дагэтуль як сьлед у беларускім нацыянальным і ў сусьветным маштабе, – яскравы доказ гэтаму. Адным з першых ён стаў біць ва ўсе званы, прыцягваючы ўвагу ўсяго чалавецтва і кожнага паасобку да той бяды, якую прынесла найперш беларусам Чарнобыльская катастрофа. Бадай ці не самы першы і ў беларускай, і ў усясьветнай літаратуры і грамадскай думцы Алесь Адамовіч даў кароткае, але вельмі выразнае вызначэньне таго, што адбывалася на яго роднай зямлі ў 1941 – 1944 гадах: "***Вайна пад стрэхамі***".

Такой ёмістай, шмат чаго вызначальнай, адначасова і сутнаснай, і вобразнай формулай называўся першы раман Алеся Адамовіча. Да яго выхаду ў сьвет асобнай кніжкай мне давялося мець самае непасрэднае дачыненьне. Прыгадваю той далёкі ўжо час, недзе на пачатку 1959 году, калі я, зусім яшчэ малады, працаваў ужо амаль два гады ў адзіным тады ў Беларусі кніжным выдавецтве, якое так і называлася – Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Месьцілася яно на чацьвёртым паверсе дома насупроць карпусоў Акадэміі навук у Менску; у двары гэтага будынку і цяпер друкарня. Меў я крыху дзіўную з пункту гледжаньня сёньняшняга свабоднага сьвету пасаду: быў рэдактарам у аддзеле, што выпускаў мастацкую літаратуру. І вось аднойчы да нас у рэдакцыю прыйшоў навуковец, дасьледчык літаратуры Алесь Адамовіч, ужо крыху вядомы тады па кніжках "Шлях да майстэрства" і "Культура творчасьці", прысьвечаных аналізу творчасьці Кузьмы Чорнага і праблемам станаўленьня беларускага раману. Асабіста мы не былі дагэтуль знаёмыя; тым не менш Алесь Міхайлавіч падышоў да майго стала і папрасіў мяне выйсці з ім у калідор. Там, саромеючыся, вельмі пачырванеўшы, ён запытаўся, ці не згаджуся я прачытаць раман, які ён напісаў. І калі я адразу згадзіўся, ён расшпіліў свой таўсты партфель і выцягнуў адтуль стос звычайных вучнёўскіх сшыткаў.

Гэта быў сапраўдны рукапіс: разлінаваныя старонкі сшыткаў, спісаныя звычайным вучнёўскім пяром і чарнілам. Почырк быў разборлівы, і я прачытаў усё вельмі хутка. Узрушаны прачытаным, адразу зразумеў: такога пра нядаўнюю вайну дагэтуль не пісалі. Праз колькі дзён мы зноў сустрэліся з Адамовічам, я павіншаваў яго, выказаў сваю думку і папрасіў аддаць сшыткі машыністкам на перадрук. Адначасова напісаў афіцыйны рэдактарскі водгук з рэкамендацыяй уключыць гэты рукапіс у выдавецкі план наступнага году (такі быў парадак). Потым давялося чытаць і машынапісны тэкст "Вайны пад стрэхамі", і карэктуру з друкарні. Карэктура ў той час абавязкова дасылалася цэнзарам, і мы вельмі хваляваліся, ці дазволяць яны друкаваць гэты раман, ці не прычэпяцца да чаго-небудзь. Але пашанцавала; тады ў Савецкім Саюзе якраз толькі пачыналася славутая адліга шасьцідзесятых гадоў, мусіць, гэта і вызначыла лёс рукапісу. Раман Алеся Адамовіча выйшаў, і я ганаруся, што ў першым выданьні гэтага твору пазначана і маё прозьвішча сярод тых, хто рыхтаваў кнігу да друку.



Алесь Адамовіч

З яе аўтарам мы часта потым сустракаліся, і я так і не адважыўся запытацца, чаму ён зьвярнуўся менавіта да мяне з просьбай прачытаць свой рукапіс. Былі ж у нашым аддзеле і іншыя рэдактары, старэйшыя і больш вопытныя. Мусіць, менавіта іх ён і збаяўся тады, у той час… Пра мяне ж ён мог толькі ведаць, што я, прыйшоўшы на працу ў выдавецтва, рыхтаваў да друку кнігі рэпрэсіраваных яшчэ да вайны і толькі што рэабілітаваных Міколы Хведаровіча, Васіля Каваля і іншых. Згодна прынятай тады завядзёнцы аўтар у знак падзякі абавязкова павінен быў весьці рэдактара ў рэстаран, каб "абмыць" новую кніжку. Вось і тады, атрымаўшы так званы "сыгнальны экзэмпляр", Алесь Адамовіч павёў мяне ў рэстаран Фабрыкі-кухні, што крыху ўглыб ад гатэлю "Менск", бліжэй да турмы ў былым Пішчалаўскім замку. Адамовіч заказаў мне каньяку, а сабе – кефіру. (Пазьней ужо многія яго сябры, у тым ліку і Васіль Быкаў, неаднаразова адзначалі, што Алесь Адамовіч аніколі не выпіваў нават граму сьпіртнога падчас любога застольля). Але больш за ўсё мяне зьдзівіла тады тое, што Алесь, пасьля таго, як я выпіў дзве-тры чаркі і разгарачыўся, стаў сам вельмі актыўным: у яго загарэліся вочы, на

твары зьявіліся чырвоныя плямы, ён стаў гучней гаварыць і размахваць рукамі, нібыта ап'янеў ён, а не я. (Пазьней і іншыя заўважаць гэтую яго рысу, што ішла ад ягонай шчырасьці і адкрытасьці характару). Падчас таго застольля разам са словамі падзякі я пачуў ад яго: "Я быў упэўнены, што мой раман ніколі не будзе надрукаваны".

"Вайна пад стрэхамі" – гэта ня толькі зьмястоўны сымбаль назвы. Трэба добра ўявіць сабе той час у Беларусі, каб зразумець, што значыла тады **так** сказаць пра мінулую вайну. Упершыню ў літаратуры пра падзеі і лёс людзей распавядалася з пункту гледжаньня найвышэйшай маральнасьці і сумленьня, усё бачылася вачыма простых удзельнікаў і пакутнікаў вайны. Ці сапраўды мы перамаглі? – гучала ў падтэксце і гэткае пытаньне. У назве рамана Алеся Адамовіча, як ужо сёньня адзначаюць некаторыя дасьледчыкі, была закадавана і згадка, што ў час так званай Айчыннай вайны працягвалася вайна жудасная, грамадзянская, распачатая бальшавіцкім пераваротам у 1917 годзе. Пра вайну пісьменьнік расказвае непасрэдна вачыма героя рамана, юнака, апаленага гэтай вайной і сваім адкрыцьцём характараў многіх людзей на вайне, адкрыцьцём прычынаў іх тых ці іншых паводзінаў. Прычым гэта робіцца непасрэдна, без усялякіх памагатых і каментатараў, без сацыялагічнай і іншай апантанасьці і хлусьні. У гэтым – тое новае, што прынёс у прозу пра мінулую вайну Алесь Адамовіч, прынёс нават крыху раней за Васіля Быкава. Напісаны расейскаю моваю, раман "Вайна пад стрэхамі" заставаўся творам беларускага пісьменьніка, зьявай перш за ўсё беларускай літаратуры, таму што быў прасякнуты філасофскім роздумам і клопатам перш за ўсё менавіта за наш народ, за яго зямлю, за яго сувэрэннасьць і аўтэнтычнасьць, за яго будучыню і ў дзяржаўным, і ў чалавечым сэнсе. У традыцыйную беларускую літаратурную плынь гэты твор, у прыватнасьці, уваходзіць і вобразам Маці, нейкай адвечнай сьвятасьці яе адлюстраваньня. "Калі ўзыходзіць сонца, чалавек сустракае яго не аднымі вачыма, ён усяго сябе падстаўляе сонцу. Убачыць маму – гэта адчуць не позірк на сабе, цеплыню яе вачэй... Адзіны ў сьвеце чалавек, які разумее ўсё..." Цытата, што не забываецца з таго часу...

Вось чаму я катэгарычна супраць папрокаў Алеся Адамовіча ў "рускамоўнасьці", якія ў апошнія гады часам гучаць з вуснаў некаторых маладых сёньняшніх беларускіх літаратараў, што групуюцца вакол "Нашай Нівы" і іншых незалежных выданьняў. Нязгодны я з меркаваньнямі, нібыта Адамовіч, як Айтматаў, Сулейменаў ды ім падобныя, пісаў як "савецкі празаік пра сваю радзіму для ўсесаюзнага чытача". Папракалі яго і тым, што ў яго творах пра вайну "зашмат газэтнасьці пасярод прозы", "зашмат натуралізму". Папулярны сёньня ў Менску Адам Глёбус наогул заяўляе: "Я лічу, яго месца ў сучаснай літаратуры наогул няма" (перадача радыё "Свабода" 22 красавіка 2001 году). Мне здаецца, што сёньня, калі пад пагрозай самое існаваньне і Беларусі і беларусаў, нацыянальнай ідэі і нацыянальнай духоўнасьці, асабліва патрэбная падтрымка, узмацненьне, тое, што дае магчымасьць мацней і гучней абвясьціць пра Беларусь і яе непаўторнасьць. Такая падтрымка можа быць і з боку літаратурнай і мастацкай спадчыны зусім нядаўняга мінулага, таго часу, што сёньняшняя моладзь ахрысьціла перыядам "ружовага туману". Далёка ня ўсё, створанае пад Саветамі, па-мастакоўску бездапаможна і толькі ідэалягічна апантана. (Пра гэта, між іншым, можна прачытаць у кнізе: Anthony Adamovich. "Opposition to Sovietization in Belorusian Literature". New York, 1958). І ў тыя гады былі сумленныя таленавітыя творцы, якія, нягледзячы на ўмовы і абставіны, стваралі творы па-сапраўднаму высокамастацкія, дзе гучала высокая агульначалавечая ідэя насуперак, а не згодна афіцыйных патрабаваньняў, гучала часам адкрыта, а часам затоена, у падтэксце. Гэтыя творы былі на ўзроўні лепшых дасягненьняў сусьветнай літаратуры; менавіта яны адказвалі на заклік Максіма Багдановіча "ня толькі свайму народу,.. але і ўсясьветнай культуры несьці свой дар", заклік, вядома, перш за ўсё эстэтычны, але які і сёньня гучыць як неад'емная частка нашай беларускай нацыянальнай ідэі. Сярод гэтай спадчыны, крыху забытай сёньня і літаратуразнаўцамі, і нацыянальна арыентаванай моладзі, назаву, напрыклад, некаторыя вершы Максіма Танка і Пімена Панчанкі, шаснаццацірадкоўі Аркадзя Куляшова, "Зацюканы апостал" Андрэя Макаёнка, творы Міхася Стральцова, Яўгена Шабана, бліскучыя, амаль клясычныя апавяданьні Івана Пташнікава ды і многае што іншае. Сюды варта дадаць і творы многіх пісьменьнікаў на эміграцыі, і крыху ўжо вядомых, як Янка Юхнавец, Уладзімер Дудзіцкі, ці зусім яшчэ невядомых, як Аўген Кавалеўскі з яго найцудоўнейшай па рытміцы і моцы чалавечай споведзі прозай... Да гэтай жа сур'ёзнай духоўнай спадчыны, што вызначае і ўмацоўвае беларускую нацыянальную ідэю, належыць проза і палымяная публіцыстыка Алеся Адамовіча.

"Вайна пад стрэхамі" – першы твор на ўсёй тады падпарадкаванай Саветам прасторы, у якім развенчваліся гераічныя міты пра мінулую вайну. Раман гэты быў толькі пачаткам, своеасаблівай першакрыніцай. Потым Алесь Адамовіч напіша раман "Сыны ідуць у бой", "Хатыньскую аповесьць", "Асія", "Апошні адпачынак", "Карнікі"... Разам з іншымі вядомымі пісьменьнікамі, але па ягонай ініцыятыве ствараліся выдатнейшыя дакументальныя кнігі "Я з вогненнай вёскі" і "Блакадная кніга". Ва ўсіх гэтых творах – паказ жудасьці і мярзоты вайны, паказ таго, як звычайныя людзі могуць ператварыцца ў нелюдзей... Адсюль – прынцыповы пісьменьніцкі прысуд вайне, яе адмаўленьне, праўда пра тое, што перажылі людзі ў той жудасны час, трывога за іх будучыню, у тым ліку і аб захаваньні беларусаў як этнасу і як нацыі. Далейшае паглыбленьне жыццёвай праўды і аб вайне, і аб жыцьці пасьля яе, асэнсаваньне і ацэнка па найвышэйшых маральных крытэрыях самога працэсу жыцьця і яго таямніц, – усё гэта з асаблівай мастакоўскай сілай гучыць у самых апошніх аповесьцях Алеся Адамовіча "Вэнэра", "Нямко" і "Vixi".

Такі чалавек і такі пісьменьнік як Алесь Адамовіч ня мог застацца спакойным, калі здарылася Чарнобыльская бяда. Я сустрэў яго выпадкова проста на вуліцы ў наступны дзень пасьля катастрофы, 27 красавіка 1986 года. Ён быў надзвычай усхваляваны; увесь час дапытваўся, што я чуў і што ведаю пра тое, што там, у Чарнобылі адбылося. Ён ужо жыў тады глябальнай антыядзернай ідэяй, кантактаваў з фізікамі, ведаў многа тэхнічных таямніц, ведаў, чым такі выбух пагражае роднай Беларусі перш за ўсё. Ці не ў той жа дзень ён пайшоў у ЦК да самых першых кіраўнікоў, там яго ня сталі слухаць. Ён піша ўсхваляваны ліст самому Гарбачову, накіроўвае лісты ў рэспубліканскія інстанцыі. Б'е ў звон, амаль крычыць аб тым, што трэба ратаваць людзей, нацыю. Праз некаторы час кіраўнікі Беларусі робяць усё, каб Адамовіч зьехаў з Беларусі.

Жывучы ў Маскве, ён актыўна ўключаецца ў грамадскую дзейнасьць. Ён рашуча на баку ўсіх дэмакратычных пераменаў у грамадстве. Ён даказвае самому Гарбачову, што зьвесткі і дакументы пра Чарнобыль, якія ідуць у Маскву ад беларускіх уладаў, – падман, хлусьня. Ён кідае выклік усёй савецкай прапагандзе, загаварыўшы пра ядзерную ваенную пагрозу як пагрозу для ўсяго жывога на зямлі. Ён даказвае, што ў час, калі назапашана столькі зброі, якая амаль імгненна можа зьнішчыць усё чалавецтва, патрэбна так званая звышлітаратура; гэта значыць, што рэальнасьць усяленскай катастрофы дыктуе і новы мастакоўскі, эстэтычны падыход, крытэрыі, ацэнкі... Пагроза гэта жыве і сёньня, і трагедыя 11 верасьня толькі пацьвярджае рэальнасьць і актуальнасьць Адамовічавых прадбачаньняў і меркаваньняў. Мяркую, што сур'ёзна памыліўся Сяргей Дубавец, калі ў згаданай вышэй перадачы на радыё "Свабода" сказаў: "Адамовічава прыдумка – "звышлітаратура" – назаўсёды засталася ў эпасе гарбачоўскае перастройкі". Не, паважаны Сяргей, Адамовіч меў на ўвазе нешта значна большае і глябальнае, чымсьці ўвесь вэрхал таго часу, які зваўся перабудовай. Толькі мы сёньня не хочам пра гэта задумвацца, часам адмахваючыся ад неабходнасьці паглыбіцца, зразумець... Рызыкну сказаць, што разважаючы пра неабходнасьць звыш літаратуры, Алесь Адамовіч інтуітыўна прадбачыў і крызіс сьветапогляду, крызіс веравызнаньняў, следствам якога, на маю думку зьяўляюцца і падзеі 11 верасьня і нязьніклая пагроза іх штодзённага паўтарэньня.

Прыгадваецца таксама наша з ім сустрэча ў Маскве, калі тэатр імя Янкі Купалы прывёз туды дзеля паказу свой новы сьпектакль – "Тутэйшыя"... Папярэдне я пазваніў Алесю, запрасіў яго прыйсьці, ён быў вельмі ўзрадаваны. Мы доўга сядзелі пасьля відовішча разам з рэжысёрам-пастаноўшчыкам сьпектакля Мікалаем Пінігіным, гутарылі, абмяркоўвалі... Адамовіч быў у захапленьні ад таго, што тэатр здолеў падкрэсьліць усе лепшыя якасьці гэтай п'есы Янкі Купалы, якая – тут Адамовіч падтрымаў маю думку – зьяўляецца па-сутнасьці першым у сусьветнай драматургіі творам у той неўзабаве папулярнай у многіх краінах Еўропы плыні, якую назавуць драматургіяй абсурду. Адно толькі Алесь Адамовіч не згаджаўся з крыху пафасным сцэнічным аптымізмам фіналу спектакля, прадбачычы яшчэ многія і многія ахвяры на шляху да спраўднай незалежнасьці Беларусі і беларускага адраджэньня.

З вострым болем у сэрцы усё сваё жыцьцё думаў Алесь Адамовіч пра радзіму, пра Беларусь. Ён уяўляў сваю радзіму ня толькі зямной прасторай і людзьмі на ёй, але і духоўнасьцю, якая з гэтай прасторы выцякае. Як ён сам сказаў, "часам, у якім давялося табе жыць". Ад гэтага болю быў інфаркт, потым – заўчасная сьмерць. "Уся ісьціна ў тым, што памерці я хачу ў Беларусі, а ляжаць у Глушы, там я звязаны з усім", – пісаў ён незадоўга да сваёй апошняе хвіліны. Дзякуй Богу, людзі выканалі яго апошняе пажаданьне: пахаваны ён на радзіме, у Глушы каля Бабруйска...

Згадваючы свайго сябра, у адным са сваіх выступленьняў Васіль Быкаў узьняў пытаньне: "А ці зразумелі яго людзі?" Нажаль і сёньня, калі Алесю Адамовічу было б 75 гадоў, тое пытаньне не страціла яшчэ сваёй актуальнасьці. Але ж напісанае застаецца, і Алесь Адамовіч назаўсёды застанецца вялікім сынам беларускай зямлі.

*****************************************



# Да Геніюш – з усёй Беларусі

**Адзначыць 92-я ўгодкі з дня народзінаў Ларысы Геніюш прыехалі ў Зэльву жыхары Гродна, Ліды, Свіслачы, Менску і іншых гарадоў Беларусі**

- Вельмі важна, што кожны год ушаноўваць памяць Ларысы прыязджае ўсе больш моладзі, - адзначыла стрыечная сястра паэткі

Пасля набажэнства ў Свята-Траецкай царкве, дзе калісьці малілася Ларыса Геніюш, прысутныя ўсклалі кветкі на яе магілу

- Дзякуй Богу, што ў нас ёсць такія святыя месцы, дзе збіраюцца тыя, каму баліць за Беларусь, за наш народ, за будучыню, - сказаў ля магілы паэткі мясцовы краязнаўца Юры Качук

Пра месца Ларысы Геніюш і яе творчасці ў сваім жыцці ўзгадалі Алесь Белакоз, Яўген Петрашэвіч, актывісты розных партый Сяргей Мальчык, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Алесь Чахольскі...

+++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# "Добра гамонім!.."

Здаецца, ніколі раней не праводзілася ў Беларусі столькі навуковых канферэнцый, сімпозіумаў, "круглых сталоў", як у апошнія два-тры гады. Асабліва на тэму, якая, хоць і пад рознымі назвамі, у тым ці іншым аспекце датычыць лёсу нацыянальных моў, нацыянальных культур. Апошні з такіх сімпозіумаў на тэму "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі" прайшоў у Мінску 9--10 ліпеня. Ён меў ранг міжнароднага і быў даволі маштабны: у ім прынялі ўдзел навукоўцы, культуролагі і пісьменнікі з 20 краін свету. Выступіў са словам нават Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура. Змястоўны і цікавы ў цэлым адбыўся абмен думкамі па вельмі актуальнай, важнай для ўсяго чалавецтва праблеме.

Сябры аргкамітэта ажно папляскалі публічна самі сабе ў ладкі. Парадаваліся, што іх пахвалілі за добрую арганізацыю работы, што форум даў магчымасць паслухаць разумных гасцей, пазнаёміцца з імі, наладзіць творчыя кантакты... Ну, калі на правядзенне сімпозіума даў "дабро" ўрад Беларусі, а сродкі -- ЮНЕСКА, дык чаму і не правесці яго арганізавана (хоць і ў напалавіну ці на тры чвэрці пустой зале)?

Як бы ні было, але -- арганізавалі і правялі. Пагаварылі. Акцэнтавалі і падкрэслілі, як важна зберагчы разнастайнасць моў і культур у свеце, падлеглым працэсу нечуванай раней глабалізацыі. Аб тым, наколькі гэта важна, прачула сказаў і галоўны дакладчык -- старшыня Савета Рэспублікі НС РБ акадэмік Аляксандр Вайтовіч: "Неабходна стварыць умовы, якія б забяспечылі захаванне паліфанічнасці свету, якія падобны на луг з мноствам кветак...". І далей: "Побач з вялікімі сусветнымі мовамі павінны захоўвацца і развівацца мовы невялікіх па колькасці народаў".

Хораша сказана! Гуманна, высакародна і зусім справядліва. Канешне ж, "неабходна стварыць умовы"! Канешне ж, "павінны захоўвацца і развівацца"! Хто ж тут запярэчыць шаноўнаму старшыні Савета Рэспублікі? Гэтак жа хораша, памяркоўна, спакойна гаварылі і некаторыя іншыя беларускія ўдзельнікі сімпозіума. Паказалі і зацікаўленасць, і дасведчанасць, і густ... Але менавіта тут і ўзнікаюць, халерачка, непрыемныя для надта задаволеных форумам пытанні.

**Першае. Дзе яшчэ ў свеце, у якой суверэннай, незалежнай дзяржаве мова карэннага насельніцтва, якое складае каля 80% ад усіх жыхароў краіны, знаходзіцца ў такім жахлівым становішчы, як мова беларускага народа ў Беларусі? Дзе яшчэ дзяржаўная мова гэтак выцясняецца з усіх сфер грамадскага ўжытку, гэтак душыцца і не пускаецца "ў людзі", як беларуская ў Беларусі?**

Адказ відавочны: нідзе ў свеце другой такой дзяржавы няма. Відавочны -- але не для беларускіх удзельнікаў сімпозіума. Нашы патрыёты, нашы заступнікі і абаронцы глядзяць на беларускую моўна-культурную сітуацыю інакш. Яны "вывучылі праблему", і ім вядома, што не толькі ў Беларусі, але і на Украіне, і ў Македоніі, і ў іншых краінах "напружаная моўная сітуацыя", і ім ад гэтага на душы трохі лягчэй. Яны ведаюць, што вунь і ў Бельгіі, і ў Фінляндыі, і ў Канадзе, як і ў Беларусі, дзве дзяржаўныя мовы -- і нічога страшнага. А ў Аўстрыі дык наогул нямецкая мова з'яўляецца нацыянальнай (чаму б не ўзяць і нам за прыклад?). Яны ведаюць і Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, і Закон аб мовах, і ён, на іх думку, зусім не благі, толькі грамадзяне не ўмеюць ці не хочуць ім карыстацца, не патрабуюць ад уладаў выконваць артыкулы і параграфы Закона (во недарэкі!). Адным словам, яны шмат чаго ведаюць такога, каб асабліва за лёс нашай мовы не хваляваца.

Хоць і ведаюць, а ўсё ж дазволім сабе сёе-тое ўдакладніць. На Украіне адзіная дзяржаўная мова -- украінская. На ёй працуюць усе дзяржаўныя ўстановы, у тым ліку Адміністрацыя прэзідэнта і ўрад, на ёй вядзецца справаводства, яна пануе на тэлебачанні і радыё, у школах і ВНУ... Так што нам, беларусам, толькі глядзець на Украіну ды аблізвацца. Яшчэ больш аблізнёмся, калі пабачым, у якім становішчы ў Фінляндыі мова фінаў, хоць статус дзяржаўнай мае і шведская. А ў Аўстрыі нямецкая мова і ёсць родная мова аўстрыйцаў, ніякай іншай там ніколі не было, і прыраўніваць у гэтым плане Аўстрыю да Беларусі -- або невуцтва, або цынізм. А новы дзейсны Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, як і адпаведныя артыкулы Канстытуцыі, -- гэта запраграмаваная пагібель нашай мовы, якая ніколі -- ніколі! -- не сканкуруе з дзяржаўнай рускай, хоць нічым за апошнюю не горшая. Хіба не бачна, з якім тэмпам пасля 1995 года, г.зн. пасля "ўраўнавання ў правах з рускай", яна знікае з усіх дзяржаўных і грамадскіх сфер?

Другое. Працэс глабалізацыі натуральна ахоплівае і такія невялікія (раўназначныя да Беларусі) еўрапейскія дзяржавы, як Нарвегія, Фінляндыя, Чэхія, Балгарыя, Данія, Славакія, Грузія, Арменія, Літва, Латвія, Славенія, Эстонія, Ірландыя, Ісландыя, Харватыя, Македонія і некаторыя іншыя. Чаму ж родная мова ніводнага з гэтых народаў нікім на іх жа радзіме не душыцца, не вынішчаецца, не выкарчоўваецца, не дратуецца, не бэсціцца, не аплёўваецца -- а свята шануецца, беражэцца, развіваецца, культывуецца, атуляецца любоўю і ласкай? У чым жа справа?

Глабалізацыя датычыць усіх сфер беларускага жыцця ў такой жа меры (думаю, не больш), як і жыцця пералічаных еўрапейскіх краін. Яна -- аб'ектыўная рэальнасць. З ёю трэба лічыцца, разумна прыстасоўвацца, выкарыстоўваць усё, што на карысць Беларусі, і супрацьстаяць таму, што нам, нашай краіне на шкоду і згубу. Уся справа ў тым, што ў кожнай з названых дзяржаў урад дае прыклад патрыятычных адносін да мовы і культуры свайго народа і рашуча стаіць на іх абароне. У нашай жа дзяржаве -- наадварот: уладныя сілы ставяцца да роднай мовы і культуры як антыпатрыятычныя, антынацыянальныя, антыбеларускія сілы, гэтакі даюць і прыклад грамадзянам. У гэтым - прычына прычын і толькі ў гэтым.

Калі на мяжы 80--90-х гадоў кіраўніцтва Беларусі (яшчэ савецкае, камуністычнае) павярнулася тварам да беларушчыны і беларусізацыі -- быў прыняты Закон аб мовах, паводле якога беларуская мова стала ў Беларусі адзінай дзяржаўнай, а значыць, атрымала гарантыі на запанаванне ва ўсіх сферах грамадскага жыцця і на вялікую шчаслівую будучыню. Сёння найвялікшая пагроза для нас, беларусаў, для нашай этнакультурнай самабытнасці, для нашай мовы -- не глабалізацыя, а глабальная, усеахопная, гвалтоўная русіфікацыя, мэта якой -- канчаткова асіміляваць 10-мільённы славянскі народ.

Хто ў поўны голас сказаў пра гэта на сімпозіуме? Адзін, паздароў яго Божа, гісторык Леанід Лыч? Ды і то чамусьці толькі на другі дзень і ў на тры чвэрці пустой зале. А чаму ж было не пусціць яго даклад у самым пачатку, каб усе госці пачулі праўду пра рэальнае становішча "дзяржаўнай" беларускай мовы ў Беларусі і не павезлі з сабой усяленых ім у душы ілюзій? У тым ліку ілюзій, што ў нас пануе дух дэмакратычнасці, свабода слова і суразмоўя, спакойная прававая атмасфера -- амаль ідэальнае "адкрытае грамадства"! Само ЮНЕСКА пераканалася, як правільна разумеюць у Беларусі моўную праблему не толькі навукоўцы і пісьменнікі, але і дзяржаўныя дзеячы, міністры і падміністры, дэпутаты... Жабракі пускаць у вочы пыл умеюць!

Трэцяе. Хто канкрэтна павінен "ствараць умовы", каб "захоўвалася і развівалася" не наогул нейкая мова нейкага народа, а канкрэтная беларуская мова на сваёй роднай беларускай зямлі, у сваёй жа краіне, у сваёй суверэннай дзяржаве? Хто? ЗША? Англія, Францыя, Германія? Хто? Беларускія ўлады душаць і вынішчаюць мову свайго народа, якая на здзек-насмешку абвешчана дзяржаўнай, а нехта будзе "ствараць умовы" для яе выратавання? Ну ці не поўны абсурд, панове? Ды толькі мы самі, самі, самі -- кожны на сваім месцы і ўсе разам -- абавязаны зрабіць усё, на што здольныя, каб наша мова не загінула, жыла, дужэла і, любоўю ўкаранёная ў душы і сэрцы мільёнаў, не знала ніякага страху за сваю будучыню.

Уяўляю, як было б здорава, калі б разумныя, незашораныя, не спаралізаваныя страхам "сенатары" і дэпутаты "палаты" паставілі ў парламенце пытанне рубам. Напрыклад, так: "У 1995 годзе была зроблена велізэзная памылка, калі другой дзяржаўнай у Беларусі мовай, а фактычна -- першай і адзінай, зрабілі мову суседняга народа, суседняй краіны. (Насамрэч, гэта была не памылка, а свядома задуманая, страшэнна подлая, злачынная акцыя, -- але хай у парламенце будзе сказана "памылка".) Калегі! Давайце прымем усім Нацыянальным сходам пастанову аб правядзенні новага рэферэндума -- каб выправіць гэту трагічную памылку". Вядома, адрабіць "назад" зробленае будзе вельмі нялёгка, але... Але такая ініцыятыва парламента была б рэальным крокам, які даў бы -- не сёння, дык заўтра -- рэальны вынік. Людзі пачулі б дый падтрымалі сваіх абраннікаў. У народа на праўду слых тонкі. Як і на хлусню і фальсіфікацыю.

Паважаны чытач, напэўна, горка ўсміхнуўся на гэтым месцы з маёй наіўнасці: маўляў, чаго захацеў!

Ну што ж! Будзем выступаць на сімпозіумах і канферэнцыях. Будзем выказваць добрыя спадзяванні, разумныя пажаданні і слушныя прапановы. У праекце выніковага дакумента форума і значыцца адна з такіх слушных аптымістычных прапаноў: праводзіць падобныя сімпозіумы ў Мінску пастаянна -- адзін раз у два-тры гады. То дай жа Бож! Во наслухаемся мудрых разважанняў аб тым, "як важна захоўваць разнастайнасць моў у кантэксце глабалізацыі...".

А тым часам апошнюю беларускую школу ў Беларусі дадушаць.

Міжволі ўспомнілася: гадоў 35--40 таму наш шаноўны кіраўнік Саюза пісьменнікаў у сяброўскім застоллі, пасля якога там кілішка, любіў выгукнуць: "Дык жа няблага сядзім! І добра гамонім! А я вам скажу, што ў гэтым і мудрасць. І не трэба нам ні тых спрэчкі, ні сваркі, ні канфлікты. Навошта? Добра ж сядзім і гамонім!..".

У той самы час у Мінску і ва ўсіх гарадах Беларусі ўжо не было ніводнай беларускай школы, а прадмет "Беларуская літаратура" быў, і ўрокі па гэтым прадмеце праводзіліся на рускай мове, і творчасць Купалы, Коласа, Багдановіча, Чорнага і тых, каму "добра сядзелася і гаманілася", беларускія дзеткі вывучалі па рускамоўных тэкстах, па перакладах -- як замежных пісьменнікаў.

Здаецца, ушчыльную да гэтага падышла Беларусь і сёння.

Дык добра гамонім!

************************************************

# ВІТАЎТАС ЛАНДСБЭРГІС: "КАЛІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ І ЗАРАЗ НЯ ЗЬЯВІЦЦА ПРАЯВАЎ ВОЛЬНЫХ ДЫСКУСІЙ, ГЭТА БУДЗЕ АЗНАЧАЦЬ, ШТО РАШЭНЬНЕ ЎЖО ПРЫНЯТАЕ"

Лідэр кансэрватараў, які быў першым кіраўніком дзяржавы (старшыня аднаўленага незалежнага Сойму) у аднаўленай незалежнай Літве (цяпер – парлямэнтар і адзін зь лідэраў парлямэнцкіх камітэтаў у справах Эўропы і замежных справах Літвы) Вітаўтас Ландсбэргіс гэтак камэнтуе інтэграцыйныя прапановы прэзыдэнта Расеі:

"Раней Беларусь ужо атрымала адказ з параўнаньнем пра катлеты і мух. Можна было так зразумець, што Беларусь выкарыстоўвае рускую катлету. Пасьля ў нас вытлумачылі інакш: што муха – гэта беларускі кіраўнік, а катлета – сама Беларусь. Катлета, якую лёгка захапіць і зь якой няцяжка зьдзьмуць муху – Лукашэнку. Хутчэй за ўсё, гэта – фон дзеля папярэджаньня сп. Лукашэнку, што ягоныя дні – нядоўгія.

А што да апошнее сустрэчы – калі Беларусі было прапанавана ўвайсьці ў склад Расеі і зьнікнуць як дзяржаве, мець аднога прэзыдэнта, адзін парлямэнт і Беларусь пераўтварыць у расейскі рэгіён, – падобна, што рашэньне ўжо прынятае, што Беларусь будзе ўлучаная цалкам, нават фармальна. Але магчыма, што гэта – застрашаньне, каб у Беларусі не было вялікіх нацыяналізацыяў тых прадпрыемстваў, маёмасьць якіх ужо у руках расейскіх кампаніяў. Можа быць, гэта – папярэджаньне. Але падобна, тут хаваюцца закіды, якія сягаюць значна далей.

Ці хто прыгадвае цяпер і другі варыянт аб'яднаньня, пра які гаварылася – стварэньне нечага накшталт Эўрапейскага Зьвязу, з выбарным парлямэнтам, які будзе вышэй і за беларускую, і за расейскую ўлады, – але ў рэчаіснасьці гэта цяжка ўявіць.

А што ёсьць рэальна – гэта было выказана канкрэтна, ясна і зразумела: паглынаньне Беларусі Расеяй, зьнікненьне Беларусі як дзяржавы. Мяркую, у гэтым накірунку Расея і пляную далейшы рух... А Аляксандар Лукашэнка просіць даць яму яшчэ два – тры гады. Каб яшчэ быў час як найвыгодней выкарыстаць гульню на ўзьяднаньне, чаго дагэтуль ён не пасьпеў зрабіць. Пэрспэктывы для Беларусі выглядаюць даволі кепска. Лукашэнку далі зразумець, што ён не атрымае гэтых двух – трох гадоў. Мы цяпер маем нешта накшталт шарады, рашэньне якой – калі казаць пра відавочныя рэчы – можа быць вельмі кепскім для Беларусі. А іншае якое рашэньне сёньня выглядае ілюзорным".

На Захадзе выказваюць зараз пра тое, што, маўляў, шлях Беларусі да дэмакратызацыі рэальны толькі праз арыентацыю на Расею. Вітаўтас Ландсбэргіс мяркуе, што ў Літве лічаць інакш і зараз чакаюць на рэакцыю беларускага грамадзтва.

(Ландсбэргіс:) "Мы заўсёды прытрымліваемся тае думкі, што Беларусь мае падставы быць незалежнай дзяржавай. Яна можа быць дзяржавай эўрапейскага кшталту. Беларусь мае дастаткова гістарычных эўрапейскіх дзяржаўных традыцыяў. Але цяжка цяпер сказаць, наколькі поўную інфармацыю для разваг атрымае беларускае грамадзтва. Пуцін ужо выказаў свае прапановы. Што цяпер прапануе Лукашэнка – і ці дасьць магчымасьць абмяркоўваць гэта, – калі беларускія мэдыі пераважна кантралююцца дзяржавай, – наколькі грамадзкая думка будзе здольная рэагаваць, як сам Лукашэнка здолее выказаць хаця нейкую самастойнасьць – гэта ўсё станецца вялікім выпрабаваньнем для Беларусі, беларускае грамадзкасьці, беларускіх партыяў".

Вітаўтас Ландсбэргіс скептычна паставіўся да выказваньняў прэзыдэнта Беларусі супроць аб'яднаньня на ўмовах Пуціна.

"Лукашэнка ўжо некалі выказваўся за мацнейшыя сувязі з Эўропай, з Захадам, нават з NATO. На гэтым фоне і цяперашнія выказваньні выглядаюць як адчайныя, але запозьненыя спробы захаваць аблічча, выратавацца. Усё высьвятліцца даволі хутка – цяпер асабліва цікава будзе чытаць беларускую прэсу: калі і зараз будуць адно паўтараць словы Лукашэнкі і ня зьявіцца праяваў вольных дыскусій, гэта напэўна будзе азначаць, што рашэньне ўжо прынятае".

Вераніка БУТО

# СЕЛЯНІН У АПОВЕСЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА "АБЛАВА"

Сялянская тэма — адна са значных у беларускай літаратуры. Селянін — самая трагедыйная фігура ў соцыуме. Згадаем драму "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы, паэму "Новая зямля" Якуба Коласа, аповесці "Лявон Бушмар" і "Адшчапенец" Кузьмы Чорнага, "Палескую хроніку" Івана Мележа, аповесць "Венера" Алеся Адамовіча і інш.

Беларусы... Якія яны? Які іх лёс? Каб адказаць на гэтыя пытанні, трэба ў першую чаргу ўглядзецца ў селяніна.

Літаратура 1960-х, 1970-х і пачатку 1980-х гг. яшчэ не магла быць свабоднай ад догмаў, але ў творчасці Васіля Быкава ўжо гучала праўда «пра чалавека, у чым радаводзе не адзін пан і не адна гвалтоўная паншчына; у чым радаводзе безумоўнае толькі адно: усведамленне людскасці і таго, як павінна быць усё між людзьмі, ды яшчэ безумоўны абавязак "сеяць хлеб і расціць"»[1].

Васіль Быкаў глыбінна высвечвае пакутлівы лёс селяніна XX ст. У адрозненне ад аповесцяў "Жураўліны крык", "Знак бяды", "Сцюжа", яго аповесць "Аблава" цалкам прысвечана тэме сялянства, дакладней, — лёсу сялянства ў драматычныя гады "вялікага пералому". Твор наскрозь сацыяльны. У творчасці В. Быкава з'явіўся новы герой — селянін сам-насам са сваім болем, адарваны ад роднай зямлі, ад людзей, якія не прымаюць яго, бо лічаць ворагам народа, "кулаком", або баяцца, што і самі могуць трапіць у такое жудаснае становішча. Адзіны суразмоўца героя — балючая, але яшчэ жывая памяць.

Перад намі тыповая быкаўская аповесць — сціслая, дынамічная, лакальная: падзеі адбываюцца ў вёсачцы Нядолішча і яе ваколіцы, "але праз рэтраспекцыі, успаміны-роздум, устаўныя эпізоды рознага характару, у тым ліку прытчавыя, пісьменнік істотна пашырае падзейныя і сэнсава-сутнасныя рамкі твора, павялічвае яго змястоўнасць і глыбіню"[2].

Ужо прайшла калектывізацыя, створаны калгас, раскулачаны і выселены на далёкую Поўнач так званыя кулакі. Адзін з іх — Хведар Роўба, які некалі паверыў рэвалюцыйным ідэям, што абяцалі зрабіць селяніна сапраўдным гаспадаром на зямлі. Свой сэнс жыцця Роўба бачыў у штодзённай працы на карысць сабе, сям'і, а значыць, і ўсім сваякам ды суседзям. Кемлівы, працаздольны, гаспадарлівы Роўба хутка пачаў падымаць сваю гаспадарку. Прыдбаў малатарню, дапамагаў бяднейшым сялянам. Многія карысталіся яго млынам, а плацілі хто колькі мог. Хведар не нажываўся за кошт аднавяскоўцаў, але жыў у дастатку, марыў вывесці ў людзі дачку і сына, які стаў першым камсамольцам на вёсцы. Гэтым быў шчаслівы. Аднак не спраўдзіліся яго мары. Бегчы б Роўду з вёскі куды вочы глядзяць, але ён каранямі ўрос у родную зямлю, у свой дом, у сялібу. Бо зямля — пачатак быцця, без яе ён — ніхто і нішто.

Пачалося раскулачванне. І хоць сям'я Хведара ўжо даўно разарылася, бо не змагла выплаціць дзяржаўныя падаткі, Роўбу ўсё ж прызналі кулаком — пастараўся адзін з суседзяў, актывіст камбеда, які быў вінны Хведару за абмалот. Менавіта ён і падказаў запісаць Роўбу ў кулакі.

У выніку Роўба апынуўся сярод спецперасяленцаў на Поўначы. Яго, селяніна, працаўніка, гвалтам адарвалі ад зямлі і завезлі ў Котлас. Ворагам у дачыненні да новай улады Хведар ніколі не быў. "*Заўжды пачціва ставіўся да ўлады, быў шчыра ўдзячны ёй за зямлю, за шчодрасць да бедняка, нядаўняга фальвараўскага парабка. Ды і як жа інакш — Савецкую ўладу лічыў сваёй, сялянскай уладай. Яшчэ, бывала, пярэчыў на сходах, як некаторыя наракалі: таго няма, таго мала. Няма мануфактуры, цвікоў, не хапае газы, не купіць цукру... Казаў некаторым нецярплівым: чакайце — не ўсё адразу. Савецкая ўлада, яна не пакрыўдзіць бедняка, яна галоўны свой клопат мае аб трудавым сялянстве. Ды ці ён сам тое прыдумаў? Аб тым пісалася ў газетах, тое гаварылі прадстаўнікі на сходах. І ён верыў. Ён гатовы быў усім пра ўсё верыць, бо сам не хлусіў ніколі, ніколі за жыццё не ашукаў*"[3]. Праз няўланапростую мову Васіль Быкаў перадае разважанні героя пра трагічны лёс яго сям'і. Новая ўлада, якой так давяраў Хведар, страшэнна пакарала яго. Сілай мастацкага слова пісьменнік раскрывае жахлівыя карціны жыцця спецперасяленцаў, і гэта яшчэ раз пераконвае чытачоў у бесчалавечнай палітыцы раскулачвання. Упершыню ў беларускай літаратуры пра лёс тых, каго беспадстаўна залічылі ў кулакі і гвалтоўна выслалі з родных мясцінаў, расказаў Лукаш Калюга ў рамане "Пустадомкі". Васіль Быкаў зрабіў яшчэ адну спробу такога аповеду. У пісьменніка з'явіўся новы герой — перасяленец. Празаік паказаў яго існаванне ў ссылцы, дзе такія, як Хведар Роўба, гінулі тысячамі.

За пяць годоў беспрытульнага здзічэлага жыцця на чужыне Хведару выпала шмат пакутаў, сярод якіх асабліва балючымі былі смерць жонкі Ганулі і дачкі Волечкі. Іх смерць успрымалася як забойства. У Роўбы адабралі нават права разві- тацца з нябожчыцамі. Калі памерла Гануля, яму *"з прыкрасцю і незадаволенасцю"* дазволілі да поўдня не выходзіць на працу, а на труну выдзелілі пяць сукаватых гарбылёў...

Усё, што рабілася навокал, было яму няміла і дужа хацелася дамоў, да сваёй сядзібы. Толькі ў вяртанні дадому Хведар бачыць страчаны сэнс быцця. Яму "пашанцавала" прыдбаць дакумент на чужое прозвішча. Чытач толькі здагадваецца, што перажыў Роўба, вяртаючыся ў родныя мясціны. Нейкая сіла цягнула яго туды, дзе ён рос, працаваў, дзе гадаваліся яго дзеці, дзе ён быў шчаслівы. Селянін верыў у тое, што малая радзіма дапаможа разабрацца, зацвердзіцца ў чалавечай мудрасці, надасць сілы ў далейшым жыцці, дзе нікога і нічога не засталося.

Перад Хведаравымі вачыма паўстала разбуранае котлішча, на якім не было ні дома, ні падвор'я. (Прыгадваецца сцэна з драмы Янкі Купалы "Раскіданае гняздо".) Доўгачаканы шлях дахаты аказаўся безвыніковым, бессэнсоўным. Нічога не засталося ад былой сялібы, хоць Хведар змог адразу знайсці тое месца, дзе яна стаяла. Але ўся бяда і была ў тым, што ён баяўся падысці да роднага месца, прайсціся па вёсцы, глянуць у вочы людзям. Самае страшнае, што аднавяскоўцы, якім ён верыў, пачалі яго цурацца. Хведар не разлічваў на спагаду, але спадзяваўся, што ў ім яшчэ бачаць чалавека. Як жа магло здарыцца, што былыя суседзі сталі ворагамі? Гэта для Хведара было незразумела, жахліва.

Пасля ўсяго перажытага герой становіцца катэгарычным у сваім маральным прысудзе: "*...Дабрыня, мусіць, там, дзе справядлівасць і праўда. А дзе класавая бязлітаснасць, жорсткасць вышэйшых да тых, хто ніжэй, якая ж там дабрыня! Мусіць, навек адышла дабрыня з мінулым часам, на змену ёй паявілася нешта новае — жорсткае і няшчаднае*"(417).

Хведар пакутуе не толькі ад хлуслівых законаў грамадства, але і ад духоўнай ізаляванасці. Ён разважае над адвечным пытаннем праўдашукальнікаў: за што? Разважанні героя падаюцца аўтарам у іх сукупнасці. Роўба і дапытвае, і судзіць самога сябе, намагаючыся адшукаць ісціну. *"А можа, гэта яму пакаранне за Бога? За абразы, якія ён маўкліва дазволіў Міколку вынесці з хаты?..Трохі было і шкада святых, з якімі мінала жыццё, але зноў жа — калі тое робіць сын, ад імя ўлады... Усё ж уладзе ён верыў"*(423).

Лёс Хведара Роўбы параўноўваецца з лёсам вераб'я, якога разазвалі свае ж "суродзічы". Роўба, згадваючы гэты прытчавы эпізод, трохі зайздросціць птушкам: "*Усё ж у птушак больш справядлівасці. Той выпадак з вераб'ём ён бачыў у жыцці аднойчы, а людской несправядлівасці нагледзеўся да брыдоты. Кожнага дня*"(394). Людскую несправядлівасць перадае эпізод, звязаны з крыкам варон. "*А вароны ўсё надрываліся — нападалі на каго ці проста сварыліся ў сваёй варонняй зграі, — мусіць, таксама нейкія ў іх непаладкі, — падумаў Хведар. Як у людзей. Але, мабыць, такіх, як у людзей, не бывае ні ў якіх істотаў. Тыя калі дзяруць каго, дык каб з'есці, а гэтыя — хіба каб задзерці і кінуць. І ўзяцца за наступнага. Усё ж лютая істота чалавек!*"(424).

Толькі ў нялюдскі час чалавек становіцца такім лютым. З'яўляюцца думкі пра смерць як пра збаўленне ад усіх пакутаў: "*О, памерці тут, знайсці вечны прыстанак у родным кутку было б найвялікшым шчасцем, пра якое ён не адважваўся і марыць...*" (373). В. Быкаў па-майстэрску апісвае душэўны стан героя, яго ўнутраны боль.

Жорстка абышоўся лёс з чалавекам, які ўсё жыццё толькі і дбаў пра справядлівасць і спагаду. Дабрыня, розум, клапатлівасць, пяшчотнасць, любоў да жонкі і дзяцей — усе гэтыя якасці былі ў Хведара. Новая ўлада дала селяніну зямлю і гэтым спраўдзіла яго запаветную мару, але хутка жорстка адабрала яе, задушыла працаўніка.

Хто яны — людзі новай улады, сляпыя ў сваёй упартасці, упартыя ў сваёй слепаце? Агульначалавечае ў іх замянялася класавым, яны свядома адмаўлялі рэлігію, а разам з ёю — дабрыню, спагаду, шчырасць. Васіль Быкаў разам з героем шукае адказ на пытанне: калі і з чаго ў чалавеку, які выхоўваўся паводле сялянскай маралі, пачынаецца звер? Няўжо ён заўжды дрэмле ў ім і толькі чакае зручнага моманту, каб паказаць свой выскал? Ці не з такіх, як старшыня сельсавета Іван Сокур, потым нараджаліся курапацкія каты? Ніхто не загадваў Сокуру знімаць *"зграбныя чорныя валёначкі"* з Волечкі, але ён быў упэўнены, што такія старанні не застануцца не заўважанымі начальствам. Вось і паехала Волечка ў старых дзіравых валёнчках, некалькі разоў прастуджвалася, хварэла і нарэшце так занядужала, што назаўсёды пакінула гэты нялюдскі свет. Як памерла дачушка, Роўба зразумеў, што не жылец ён на зямлі. Засталося адно жаданне — пабачыць Радзіму...

Страшны ў сваім маральным падзенні Роўбаў сын Мікола. Гэта ён падказаў бацьку купіць малатарню, з-за якой Хведара неўзабаве і раскулачылі. Вядома ж, нічога благога тады сын да бацькі не меў. Хведар быў гатовы дараваць яму і тое, што адмовіўся ад яго, высланага.

Вакол Міколы знаходзіліся, як правіла, «гэткія ж самыя апантаныя ідэяй сусветнай рэвалюцыі, хто, дбаючы пра шчасце ўсяго чалавецтва, зусім не думаў, а як жа жывецца ў час гэтых надзвычайных рэвалюцыйных зрухаў канкрэтнаму "маленькаму" чалавеку»[4]. А шлях да маральнага падзення Міколы Роўбы, мабыць, пачаўся якраз тады, калі ён, тагачасны камсамольскі сакратар, даведаўся, што яго аднадумец і сябар Шурка, *"адзіны сынок у бядняцкі-ўдавы Міхаліны"*, не да канца выканаў *"рэзалюцыю, каб зняць абразы."* *"...Пад весну неяк выпадкам камсамольскі сакратар дазнаўся, што ў Шуркі застаўся адзін абраз, вісіць на покуці. Міколка сабраў камісію з трох чалавек, і яны пайшлі ў хату да Шуркі абследаваць. Аказалася, што так яно і ёсць, як казалі..."* (416). Пасля гэтага Шурку выключылі з камсамола. Такая катэгарычнасць, максімалізм тады дужа здзівілі бацьку, але на гэта Мікола адказаў:"*Камсамол такіх ашуканцаў сцірае ў парашок!*"(417). Хведар Роўба толькі прамармытаў у адказ: *"Ну-ну!"*

Сын дзейнічаў не па прымусе, а па ўласным разуменні, усведамляў, мабыць, сваю бездакорную праўату. Малады Роўба выбіўся з армейскай службы ў партыйнае кіраўніцтва, стаў сакратаром райкама і цвёрда засвоіў, што не павінна быць ніякай спагады да людзей пры новай уладзе. Пісьменнік паказвае, што новая ўлада робіць чалавека дзікуном: *"Распадаліся сем'і, нішчылася людская роднасць, спрадвечная вясковая крэўнасць. Сталі браты як чужыя"*(394). Голас Хведара і голас аўтара зліваюцца ў адзінае, непадзельнае. Гэта крык душы. Калі такія людзі — "лішнія", то хто застанецца? Які будзе лёс сялянства, увогуле — нацыі?

...Галодны, стомлены, брыдзе Роўба вакол роднай вёскі. Яму вельмі хочацца даведацца, якое яно, новае жыццё. Выпадковая размова з незнаёмым селянінам-пастухом упэўніла яго, што справы ў калгасе ідуць няважна. Корму не хапае, ураджаі слабыя. Перажылі страшэнны голад, замучаныя падаткамі. Ды Роўба і сам бачыў, як працавалі сялянскія жанчыны на калгасным бульбяным полі. Так паўставала праўда і пра надзвычайнае, бяспраўнае жыццё калгаснікаў, і пра сына-дэспата, які адмовіўся ад бацькі — *"прозвішча меўся мяняць, каб ані звання..."* Дык за што тады ён пакутаваў?

Фінал твора страшны. Апошні яго раздзел названы гэтаксама, як і ўся аповесць — "Аблава". Адбываецца сапраўдная аблава на Роўбу.

Уцякач пазнае ў сваіх пераследніках і таго самага Шурку, *"якога некалі выключылі з камсамола"*, і сваіх колішніх суседзяў Міхася Майстронка і Лёксу Саўчыка. Сярод іх і Зміцер Цыпрункоў — *"самы няўклюдны гаспадар, у якога некалі здохла кабыла ад бяскорміцы, бо з'ела страху за зіму і не хапіла. Той Зміцер, які за жыццё не навучыўся плясці лапцей (заўжды пляла яму жонка), цяпер гэты недалэга робіць брыгадзірам"*(419). Загнаны да знямогі, Роўба кіруецца да балота, да багны. З выдатнай мастацкай псіхалагічнай заглыбленасцю В. Быкаў перадае зрухі ў характары свайго героя ў той момант, калі неабходна зрабіць вырашальны крок. Хведар ніколі і нікому не жадаў ліха. Не хоча ён яго і цяпер:"*Людцы, завошта вы так? — гучала ў ім унутраным роспачным шэптам. — Што я зрабіў кепскае вам? Што — малатарню?.. Дык тады ж дзякавалі па шчырасці, здаецца. Ці ж я хацеў каму кепскага? Ці сабе многа ўзяў? Я ж аддаў усё вам — бярыце. Толькі завошта ж мяне так люта? Людцы, адумайцеся!..*"(429).

Жыццё любой цаной непрымальнае для пісьменніка і яго героя. Яно павінна сцвярджацца маральным, справядлівым шляхам, вечнымі духоўнымі каштоўнасцямі.

Кіруе аблавай разумны і адукаваны Роўбаў сын Мікола. Дзікі светператвараецца ў рэальнасць, дзе сын ідзе супраць бацькі. Васіль Быкаў гаворыць пра канкрэтны чалавечы лёс, але аднача́сова расказвае пра мільёны падобных, прыводзіць чытача да высновы: выраджаецца сялянства — выраджаецца і нацыя.

Хведар выбірае смерць, бо ён стаў для людзей падобным да нехрысця, якога выгналі з вёскі. Не

родная зямелька, а балотная твань прыме яго цела. *"Не дадзена было ціха жыць, дык хоць пашчасціла ціха памерці. Шукалі яго доўга, пароль шастамі з берага і з куп'я. Ды так і не знайшлі"*(431). Пароль нават тады, калі ён даўно ўжо захлынуўся ў балотнай твані. Бедалага зліўся з прыродай. Шукалі ж яго, вядома, не дзеля таго, каб пахаваць, а дзеля рэчыўнага доказу, што яшчэ адзін класавы вораг знішчаны...

"Такім чынам, праз вялікую чалавечую трагедыю ні ў чым не вінаватага Роўбы высвечваецца трагедыя нашага сялянства, паказваецца жорсткая бесчалавечнасць той з'явы, якая атрымала назву ліквідацыі кулацтва як класа, а на самай справе прывяла да разарэння вёскі, бо знішчыла яе самых дбалых, клапатлівых і ўмелых працаўнікоў, а ў дадатак да ўсяго пад корань падрэзала веру селяніна ў самую магчымасць заставацца гаспадаром на зямлі"[5].

Пісьменнік вельмі востра перажывае за лёс свайго народа, па якім пракацілася "чырвонае кола" сталінскіх пераўтварэнняў. Васіль Быкаў выступае супраць стаўлення да селяніна і ўвогуле да чалавека толькі як сродку ажыццяўлення глабальна-эканамічных эксперыментаў, адмаўляе гвалтоўныя метады грамадскіх перабудоваў. Аповесць напісана з сардэчным болем і з вялікай любоўю да народа-працаўніка, які вынішчаўся ў імя ілжывых ідэалаў. Грамадству неабходна засвоіць, што любоў да ўсяго чалавецтва прыходзіць праз любоў да канкрэтных людзей, да роднай зямлі, якую спрадвечныя сяляне шануюць, як маці.

# Учитесь сражаться за свою независимость!

**Юрий РАБЧУК**

Затяжной период невнятной интеграции России и Беларуси завершился предложением Владимира Путина слиться в единое государство. Для Александра Лукашенко оно оказалось настолько неожиданным, что белорусский лидер нашелся что ответить только спустя несколько часов, когда возвратился из Москвы и почувствовал под ногами родную землю. И сразу же прослыл самым ярым патриотом и борцом за суверенитет Беларуси. Некоторые аналитики даже высказывают мысль, что годы его президентского правления, положенные на алтарь строительства союзного государства, прошли впустую. Проанализировать ситуацию в отношениях двух стран корреспондент «БДГ» попросил лидера российского «Демократического союза» Валерию НОВОДВОРСКУЮ.

— Валерия Ильинична, как вы думаете, сейчас, после очередного политического скандала, есть ли будущее у белорусско-российского союза?

— Никакого будущего ни у путинской России, ни у лукашенковской Беларуси нет. Будущее Беларуси — это «Малады фронт», БНФ, движение «Зубр». Я с большим сладострастием наблюдала, как они рвали портреты Путина. Если у них остались лишние — пусть поделятся с «Демократическим союзом», мы тоже порвем. Конечно, Путин не прочь поглотить Беларусь. Но так, чтобы она даже и пищать не могла. Если Ельцин еще играл в какое-то равноправие, которого, конечно же, не было — все еще помнят, какое равноправие было у Беларуси в рамках Советского Союза, — то Путин играть не хочет. Он совершенно откровенно говорит: я вас сегодня за ужином скушаю. Или: не хотите ли вы препожаловать в состав какой-нибудь российской губернии? То есть это то, чем занималась имперская Россия еще задолго до октябрьского переворота — колонизация, русификация, запрет говорить на своем языке. Возьмите Екатерину Вторую. Казалось бы, либеральный монарх, но ведь она запретила украинский язык. И с Беларусью было бы такое же: ассимиляция, утрата национальной независимости, национальной идентичности. Я могу сказать только одно: держитесь от нас подальше, упирайтесь руками и ногами, когда вас сажают на эту лопату и тащат в печь. Единственное, что может Беларусь приобрести на этом пути, это отправку белорусской молодежи воевать в Чечню. А то нам, похоже, уже некого туда посылать.

— Кто, по-вашему, виноват в том, что белорусско-российские отношения дошли до такой опасной черты?

— С одной стороны, виноват, естественно, Лукашенко, который всячески жался к Москве и даже уничтожил национальный флаг и герб. Надо еще поискать президента, который занимался бы этим. И вот — результат всех его усилий, его поездок в Москву. С другой стороны — равнодушие значительной части белорусского общества к собственной национальной истории, к собственному национальному достоинству. Иначе Лукашенко не стал бы президентом ни при каких подтасовках результатов выборов, за него никто бы не голосовал, его бы просто тухлыми яйцами закидали. Ну и с третьей стороны — желание абсолютного большинства россиян, включая политическую элиту, поглотить Беларусь. Ведь у большинства россиян сознание — имперское. Они совершенно искренне просто не могут понять, что кому-то хочется какой-то свободы. За примерами далеко ходить не надо, возьмите ту же чеченскую ситуацию: «Как это можно, у нас ведь так хорошо. Какая еще вам нужна свобода в рамках империи братских народов?» Вот три фактора, которые привели к этой черте.

— После заявления Путина о включении Беларуси в состав Российской Федерации едва ли не все известные российские политики в один голос стали одобрять его предложения. И что, никому из них в голову не могла прийти мысль, что объединение по варианту Путина унизительно для белорусов?

— Все, кроме «Демократического союза». Если у вас показывают программу «Грани» по шестому каналу телевидения, то вы могли видеть: я открыто сказала, чего хочет Путин, чего хочет Лукашенко и чем это закончится для Беларуси. Этот вариант с поглощением был предложен Гайдаром и Чубайсом еще до создания Союза правых сил в рамках «Демвыбора России». Они уже тогда сказали, что если объединяться, то давайте так. Потому что для них главное — чтобы не пострадал российский рубль. А то, что будет растоптана национальная идентичность целой страны — это для них совершенно несущественно. Политическая элита России, кроме «Либеральной России», возглавляемой Юшенковым, является имперской по своему определению. Ну, может быть, Явлинский вас еще поймет, хотя он на эту тему особенно не высказывается. Но больше действительно апеллировать не к кому. Остается только поплевать на руки и бороться за свою свободу. И не выбирать таких президентов, как Лукашенко, которые с потрохами сдают страну иноземным завоевателям.

— Не развалом ли самой России продиктовано желание российской политической элиты включить Беларусь в свой состав?

— Россия всю жизнь разваливается, это ее нормальное состояние. Для того, чтобы иметь волю к свободе, какую имела Чечня, надо чем-то отличаться от метрополии. У нас предпочитают потихоньку тянуть из бюджета, как это делает Шаймиев в Татарстане, который никуда на самом деле не собирается уходить. Кроме чеченцев, которые захотели создать свое национальное государство, больше не нашлось людей, преданных идее свободы. А то, что Россия сама не устроена и регионы находятся в ужасном состоянии, это Россию не волнует. Экспансия — вот главный закон московской орды, унаследованный от орды Золотой. Чингисхана ведь тоже не волновало, что у него в тылу: он шел вперед. Неумение воспользоваться своими завоеваниями — это как раз главное свойство ордынцев, которые только уничтожают чужое, но не могут построить свое.

— По приезде в Минск прошедшей весной лидер СПС Борис Немцов сказал журналистам буквально следующее: не бойтесь России и ее капитала, который сделает вас богатыми, как японцы.

— Это лицемерие. Немцов — человек наивный и недалекий, но не до такой же степени. Он совершенно искренне не понимает, что кому-то может быть нужна свобода. Кроме российского капитала, в Беларусь еще кое-кто придет. Хотя, я думаю, нашему ФСБ совершенно незачем к вам ходить, потому что у вас есть свои спецслужбы, которые уже уничтожают оппозиционеров. Значит, здесь «все в порядке». Не один российский капитал к вам придет: получите российскую Сибирь для своих оппозиционеров, российскую армию с ее военкоматами, дабы посылать белорусскую молодежь в Чечню. Но поскольку большая часть политической элиты России на выборах победила только путем одобрения войны в Чечне и на самом деле ковриком лежит под ногами у Путина, эта элита не собирается защищать вас ценой своего места в Думе.

— Вероятно, не для того и Ельцин, и Путин столько лет содержали Лукашенко, чтобы сейчас упустить шанс втянуть Беларусь в свои объятья?

— Конечно. Лукашенко — типичный сателлит, типичный коллаборационист, сатрап Москвы. Он сейчас упирается, потому что боится, что ему не хватит власти, не хватит денег. Но если бы его официально назначили генералом-губернатором провинции под названием «Беларусь», то, я думаю, он бы согласился. Он просто боится, что с ним не поделятся.

— По возвращении из Москвы Лукашенко стал самым ярым сторонником независимости Беларуси. Некоторые даже высказывают опасения, что если национальная белорусская элита пойдет у него на поводу, то на своем посту Лукашенко продержится еще много лет.

— Надо знать, с кем объединяться. Вы уже имели неосторожность пригласить на президентские выборы профсоюзного деятеля Гончарика, который каждый день по два раза звонил в Москву и заверял, что если изберут его, то он лучше Лукашенко пойдет на сближение с Москвой. То есть нельзя объединяться с врагами, даже если враги из каких-то своих соображений начинают излагать чужие идеи. Сознательным гражданам надо подальше держаться от России, бороться с Лукашенко, возвращать свой флаг и герб и держаться ближе к Европе. Вам надо ориентироваться на Польшу, на Литву, но уж никак не на Россию.

— Несколько лет назад у нас было популярно ваше заявление о том, что в случае захвата Россией Беларуси вы на стороне Белорусского народного фронта с оружием в руках будете сражаться за нашу независимость. Готовы ли вы к этому сейчас?

— Это была шутка Константина Борового. Мы сделали такое заявление: если будет некий союз, мы откажемся от его гражданства, сохранив только российское гражданство. Это заявление мы направили Бородину, так оно там и лежит. Разумеется, мы целиком и полностью всегда были на стороне Беларуси, на стороне Чечни, на стороне Украины и всех колоний. Наша программа еще в 1989 году включала пункт о дезинтеграции СССР. Так что можете себе представить, как нам «нравится» идея втащить Беларусь обратно. Ну а сражаться за свою независимость учитесь сначала у избирательных урн, чтобы у власти не оказывались такие субъекты, как Лукашенко. Потому что если народ избирает Лукашенко, то уж явно в партизаны в Беловежскую пущу и Полесье он не пойдет.

— Среди части белорусских политиков бытует мнение, что Россия все-таки «добьет» Лукашенко и втянет в себя Беларусь. Ваши прогнозы на этот счет?

--- У меня никакого прогноза на сей счет нет, все достаточно непредсказуемо. Сейчас все зависит исключительно от поведения белорусского народа. Если Лукашенко поймет, что ему, если он отдаст страну в состав Российской Федерации, придется бежать из Беларуси, что ему не будет места на белорусской земле, то не исключено, что никто никуда его не затянет. Место российского вице-премьера ему не дадут — он там никому не нужен. На Запад, как вы понимаете, он тоже не побежит, а у Саддама Хусейна и у Ким Чен Ира слишком голодно.

Моцна прашу надрукаваць гэты цікавы артыкул у арыгінале. Артыкул узяты з газэты "БДГ".

* * *

"Мяне вельмі палохае і зьдзіўляе бесклапотнасьць і самазаспакоенасьць нашай беларускай творчай і палітычнай эліты, зь якімі яна ўспрыняла заяву Пуціна пра далучэньне Беларусі да Расеі шасьцю абласьцямі. У СМІ, у тым ліку і на Радыё Свабода, многія выступоўцы гэтую заяву Пуціна пачалі тлумачыць на свой лад, як каму падабаецца. Адны кажуць: Пуцін гаворыць адно, а думае зусім па-іншаму. Другія – што ён проста хоча перахапіць ініцыятыву інтэгратара. Трэція – што Пуцін хоча прымусіць Лукашэнку дакладна вызначыцца ў пытаньні аб'яднаньня... Я мяркую, што ўсе гэтыя выказваньні прытупляюць нашую пільнасьць...

Трэба зыходзіць з таго, што Пуцін сказаў тое, што сказаў. А выказаў ён тое, што хоча пачуць кожны расеец – ад прэзыдэнта да апошняга бамжа.

Народ любой іншай краіны, пачуўшы такое, як мы пачулі ад Пуціна 14-га жніўня, выйшаў бы на вуліцы і скінуў тое кіраўніцтва, якое гандлюе сваёй краінай. Грош цана апазыцыйным партыям, якія нават не паспрабавалі паклікаць народ на вуліцы...

Што б зараз ні казаў Лукашэнка пра недапушчальнасьць анэксіі – мы ведаем, які кошт маюць ягоныя словы і запэўніваньні. Калі толькі ён апынецца ў такім жа бязвыходным становішчы, як, напрыклад, югаслаўскі дыктатар Мілошавіч – тут жа забудзе пра ўсе свае запэўніваньні.

Таму заклікаю ўсіх грамадзянаў Беларусі быць пільнымі і абараняць сваю Айчыну ўсімі магчымымі сродкамі". І. К

* * *

**Дзьмітры Рагозін - упаўнаважаны прэзыдэнта Ўладзіміра Пуціна па пытаньнях Калінінградзкай вобласьці, заявіў у Варшаве, што ён не згаджаецца з прапановай увядзеньня візаў для расейскіх грамадзянаў, якія пасьля далучэньня Польшчы і Летувы да Эўрапэйскага Зьвязу, захочуць падарожнічаць у Калінінград.**

Рагозін, які сустрэўся з польскімі дэптатамі -чальцамі Эўрапэйскай Камісіі дадаў, што ўвядзеньне візавага абавязку непазьбежнае, але Расея хоча, цытуем : " выратаваць жыцьцё тысячаў людзей , якія ўтрымліваюцца з памежнага гандлю". Паводле прадстаўніка Ўладзіміра Пуціна, праблему могуць вырашыць доўгатэрміновыя, шматразовыя візы альбо спэцыяльныя магнітныя карты. Дзьмітры Рагозін прыгадаў, што Расея ніколі не прапанавала стаўрэньня бязвізавых калідораў па тэрыторыі польскай дзяржавы ці магчымасьці пераезду апячатанымі вагонамі. Паводле Рагозіна-гэты выдумка журналістаў -правакатараў. 2 верасьня Расея павінна прадставіць Эўрапэйскай Камісіі свае прапановы, датычныя Калінінградзкай вобласьці, на якія Эўрапэйскі Зьвяз адкажа праўдападобна 18 верасьня.

А ці не пара гэтую штучна ўтвораную "вобласьць" перадаць назад Нямеччыне?..

# Прапановы ў справе ўзаемадзеяньня беларускай дыяспары ў сьвеце

Калі йдзе размова пра беларускую прысутнасьць у сьвеце, шмат хто ў самай Беларусі не дае веры, што беларусы за мяжой здольныя аб'яднацца дый рабіць нейкія захады ў справе захаваньня беларускай культуры сярод іншамоўнага асяродзьдзя. Чаму людзі зьдзіўляюцца? Найперш таму, што ня ўсё добра з гэтым пытаньнем ў самай Беларусі. Але ня будзем казаць пра Беларусь. Паразважаем наконт дыяспары.

Дыяспара – магутная сіла. І тыя краіны, якія зразумелі гэта, шмат робяць у справе ўмацаваньня сваёй дыяспары, а, значыць, і свайго іміджу й аўтарытэту за мяжою. Прыкладаў шмат нават у нас, у Іркуцку. Гэта і Польшча, і Нямеччына, і Ізраіль, і Фінляндыя, і нават Літва. І, сапраўды, дзякуючы намаганьням перадусім гэтых краінаў ды іхным шчыльным сувязям з дыяспарамі (якія, дарэчы, значна меншыя, чым, напрыклад, беларуская) – аўтарытэт і самых дзяржаваў і іхных дыяспараў значна вырас. Напрыклад, Польшча ўжо зьбіраецца будаваць Польскі дом культуры амаль у цэнтры горада. Прычым усе выдаткі бярэ на сябе польскі бок. І мэр гораду ідзе насустрач. Зноў-жа, у цэнтры гораду ўжо працуе Польскі гандлёвы дом і г. д.

Чаму-ж у нас справы пакуль ідуць значна горш? Наогул, мы ўжо прызвычаіліся працаваць без падтрымкі нашай мэтраполіі. Мы ўжо самі здолелі сваімі справамі тут, у Іркуцку, падняць і свой аўтарытэт, і аўтарытэт нашае нацыі. Але... не дзяржавы. І прычына тут адна: няма ў Беларусі прадуманай нацыянальнай палітыкі. Ёсьць спроба знайсьці ў Расеі паплечнікаў ідэі "славянскага братэрства" й проста "любіцеляў" А. Р. Лукашэнкі. І такія людзі знаходзяцца. Але што далей? Акрамя крыку, што ўсе славяне ёсьць браты, а самыя найбліжэйшыя браты – гэта рускія й беларусы, іхная справа далей ня рушыцца. Яны нават пра сваю гісторыю, пра гісторыю беларускага народу, нічога ня ведаюць. Таму такія людзі могуць быць толькі каньюктурнымі асобамі нейкага чарговага палітычнага дзеяньня, але ня годнага прадстаўляць беларускую нацыю на чужыне. Штоб мы не казалі пра "братэрскія сувязі", але тут, у Іркуцку, іншая зямля, зусім ня нашая, не беларуская. І бульбу тут саджаюць не барознамі, а "клунямі", не "пад каня", а "пад лапату". Праз адно ўжо гэтае беларусы на Іркуччыне ўспрымаюцца, як людзі з другой традыцыяй. Дый мы, беларусы, хоць у асноўным не жадаем асабліва вылучацца, а ўсё-ж не-не, ды скажам: "Ды яны тутака ня так робяць, як у нас". А што з гэтага значыць? Што мы з рускімі ёсьць розныя народы, павінныя не саромецца сваёй нацыі й годна несьці свае традыцыі й светаадчуваньне.

## Мае прапановы:

### 1. Нацыянальная

Нам, беларусам, трэба як мага хутчэй распрацаваць *спрыяльную нацыянальную палітыку* (СНП). Гэтая СНП павінная быць найбольш накіраваная на ўмацаваньне беларускай культуры, мовы, гісторыі, беларускай традыцыі й беларускага светаўспрыманьня (беларускага менталітэту). Безумоўна, лепш за ўсё было-б, калі-б беларускія ўлады, зразумеўшы неабходнасьць СНП, пачалі рабіць рэальныя захады дзеля ўмацавання беларускай дыяспары. Самае цікавае, шмат грошай дзеля гэтага ня трэба. Неабходна толькі выказаць зацікаўленасьць, наладзіць стасункі з дыяспарай у розных краінах. Трэба паслухаць сваіх суродзічаў за мяжою. Трэба зразумець, што толькі тыя, што шануюць свае нацыянальныя сымбалі, спрыяюць разьвіцьцю й захаваньню роднай мовы, пашыраюць веды пра беларускую гісторыю, – толькі такія й здольныя па-сапраўднаму прадстаўляць сваю мэтраполію у сьвеце. Больш таго, толькі такія людзі й зьяўляюцца сапраўднымі патрыётамі Беларусі, і толькі яны згодныя самаахвярна працаваць на ейную карысьць.

Але што рабіць, калі гэтага не разумее нашая дзяржава? Што рабіць, калі афіцыйная ўлада нават не жадае пачуць голас сапраўднай дыяспары? Я лічу, што ў такой сытуацыі ня трэба чакаць нейкіх захадаў ад чыноўнікаў, якія самыя не разумеюць, што яны робяць. Трэба выхоўваць ды распаўсюджваць СНП унутры дыяспары самастойна. У Іркуцку мы ўжо зрабілі шмат у гэтым накірунку. Прычым не атрымліваючы, фактычна, ніякай дапамогі з боку РБ. Што дзеля гэтага трэба? Не так ужо й шмат. Для ўмацаваньня беларускай культуры мы ладзім штогод нашыя нацыянальныя сьвяты: Купальле, Дзяды, Каляды, Гуканьне вясны, Сёмуху. Мы іх робім згодна нашых старых, яшчэ дахрысьціянскіх традыцыяў, і ў гэтым нашая моц. Мы ня толькі аб'ядноўваем на сьвятах людзей розных веравызнаньняў. але й адраджаем нашую старажытную культуру. Да таго-ж, на гэтыя сьвяты зьбіраецца іншым разам да 250-300 чалавек. І ўжо калі мы правялі сёлета шостае Купальле. дык было бачна, што гэтае сьвята сталася для нашай суполкі добрай традыцыяй. Гэтага сьвята ўжо чакаюць, і яно вельмі патрэбнае людзям. Дарэчы, праз народныя беларускія сьвяты шмат хто зь "няўпэўненых" беларусаў пачаў адчуваць сябе шчырым беларусам.

### 2. Гістарычная

Усе, напэўна ведаюць, што без сваёй нацыянальнай гісторыі, у якой ушаноўваюцца не генэралы іншай краіны (Сувораў, Кутузаў), не цары-каты (Іван Грозны, Пётар І), а свае нацыянальныя пасіянарныя дзеячы, – не абыходзіцца ні адзін народ. Мы стаім перад выбарам: альбо мы адмаўляем сваёй, зноў-жа, *годнай* гісторыі й зьнікаем, як народ, альбо мы пачынаем выхоўваць сярод нашай моладзі *гістарычную годнасьць*. Толькі ў апошнім выпадку мы можам разьлічваць, што пасыянарных дзеячаў, якія згодныя працаваць на карысьць адраджэньня Бацькаўшчыны, будзе ў некалькі разоў больш. Я ўпэнены, што выхоўваць гістарычную годнасьць трэба з самага пачатку – з ушанаваньня *нацыянальных сымбаляў* (НС).

У Сядзібе нашага Таварыства, дый і на нашай эмблеме, на шыльдзе, прысутнічаюць НС. Да мяне заходзіць новы чалавек і першае пытанне, што гэта за вершнік на кані. І я тлумачу. Кожнаму новаму чалавеку. І бачу, як пад узьдзеяньнем 700-гадовай беларускай эмблемы чалавек пачынае адчуваць сваю *годнасьць*. Прычым шмат хто й з рускіх, даведаўшыся пра нашыя гістарычныя посьпехі, пачынае паважаць нас значна больш. Ня так даўно адзін мой знаёмы, прачытаўшы ў адной з кніг пра 8 верасьня 1514 г., мне заявіў: "Цяпер я буду кожны год адзначаць ваш Дзень вайсковай славы. Ён не беларус. І не зьяўляецца сябрам Таварыства, але ён здолеў зразумець гістарычнае значэньне гэтай бітвы.

Мяне іншым разам называюць БНФ-аўцам толькі за тое, што нашу Пагоню. Але гэта зусім ня так. Я гісторык. Прычым гісторык, які ведае гісторыю свайго народу. Дык як я магу не шанаваць нацыянальныя гістарычныя сымбалі? У Іркуцку мы стварылі Гістарычны клюб "Спадчына". Вы ведаеце, колькі людзей прыйшло на нашае першае паседжаньне? 50 чалавек! Нашая Сядзіба нават ня зьмесьціла ўсіх жадаючых.

### 3. Культурная

*Беларуская культура* (БК) павінная разыходзіцца вялікімі хвалямі па усім сьвеце. Перад нашым ІТБК стаяць дзьве асноўныя задачы: а) аб'яднаць як мага больш людзей беларускай нацыянальнасці ў адну моцную дыяспару; б) пашырыць веды пра БК сярод іркуцянаў. Згодна гэтым задачам мы й вядзем сваю працу. Нас ужо заўважылі ўсе. 31 траўня Таварыству споўнілася 5 гадоў. Іншым Нацыянальным культурным цэнтрам у Іркуцку споўнілася значна больш гадоў, але ўсе зайдросцяць нам, бо мы на сёньня больш актыўныя й маем шмат моладзі. Чаму так? Таму што мы бярэмся за любую справу. Мы ня толькі зьбіраемся разам і сьпяваем нашыя песьні, але мы ўдзельнічаем у розных гарадзкіх мерапрыемствах і ў вобласьці, самі праводзім фэстывалі й абавязкова нацыянальныя абрады. І гэта спрыяе жаданьню моладзі прыходзіць да нас і шукаць свае беларускія карані.

Я ўжо даўно заўважыў, што чалавек, які пабываў у нас на Купальлі, незалежна ад таго, што ў яго напісана ў пашпарце, нярэдка робіцца беларусам. І гэта ня жарт. Але гэтага не дастаткова. Трэба выходзіць на рэгіянальны ўзровень, на дзяржаўны ўзровень, дый і на міжнародны ўзровень. Цудоўныя прыклады мы маем у Сыбіры. Так, напрыклад, 22 красавіка ў Навасыбірску быў праведзены Першы агульнасыбірскі фэстываль беларускай песьні, на які прыехалі зь Цюмені, Навасыбірску й вобласці, зь Іркуцку розныя беларускамоўныя сьпеўныя калектывы. А 23 чэрвеня, на Купальле, прайшоў і Першы іркуцкі абласны фэстываль беларускай песьні, на які прыехалі прадстаўнікі з 4 раёнаў вобласьці. Навошта гэта? Няма куды падзець грошы? Не! Гэта зьяўляецца вялікім стымулам да вывучэньня беларускай традыцыі творчымі калектывамі. А што надалей? Я сваім дзяўчатам кажу: "Мы паедзем з вамі ў Маскву на Першы агульнарасейскі фэстываль беларускай песьні, а далей – на Першы сусьветны фэстываль беларускай песьні. Няма дзе сабраццa? А давайце да нас, у Іркуцк. Альбо паехалі ў Нью Ёрк. А лепш, безумоўна, усёж, у Менску... Але ж гэта зусім невялікі прыклад – фэстываль.

Польшча, напрыклад, заахвочвае журналістаў пісаць як мага больш пра польскую прысутнасьць у сьвеце. Як гэта робіцца? Вельмі проста. За любую публікацыю ў СМІ Іркуцку польскі бок плаціць ганарар, прычым незалежна ад таго, плаціла самае выданьне журналісту, ці не. Нават мяне палякі "вэрбавалі" да такіх публікацыяў. Але ў мяне чамусьці ўсё больш пра беларусаў атрымліваецца. Хоць, здаецца, бяруся пра паляка пісаць, а як больш пільна пашукаю пра яго матар'ялу, дык ён беларусам аказваецца. Вось ужо Чэрскага забраў, зараз да Юзафа Каліноўскага падбіраюся...

### 4. Эканамічная

Я ўпэнены, што любая арганізацыя лепш сябе пачувае, калі ня думае пра тое, дзе ўзяць тысячу рублёў, каб выпусьціць свой бюлетэнь, альбо сто рублёў, каб купіць канву для кашулі. А гэта значыць, што трэба разьвівацца эканамічна. Наша РБ мае вялікі патэнцыял. У нас, у Расеі, шмат якія беларускія тавары маюць вялікі попыт. Але-ж гэты самы тавар не купляюць у Беларусі. Яго бяруць на маскоўскіх оптавых складах Газпрома дый іншых манаполіяў. Чаму так? Прычынаў шмат. Але галоўнае неразуменьне таго, што якраз дыспара магла-б прадстаўляць беларускі тавар у замежжы. Мы ўжо адкрылі фірму "Беларускі гандлёвы дом". Да нас ужо зьвяртаюцца людзі, жадаючыя купіць беларускія тавары. Але мы іх ня маем, бо нам зусім невыгодна купляць іх у Беларусі. Што рабіць? Нам трэба наладзіць прамыя стасункі зь беларускімі прадпрыемствамі, а дзяржаве дазволіць заводам прадавацьпрадстаўнікам дыяспары тавар па ўнутранарынкаваму кошту – як для прадпрыймальнікаў зь Беларусі. Вось тады ў нас будзе стымул купляць беларускі тавар не ў Маскве, а ў Менску. Лічу таксама, што трэба наладжваць эканамічныя стасункі паміж беларускай дыяспарай у розных краінах.

### 5. Грамадзкая

Дзеля таго, каб нашая дыяспара моцна трымалася ў замежжы, трэба ствараць Рэсурсныя цэнтры грамадзкіх ініцыятываў (РЦ). Гэтая практыка йснуе ўжо ў шмат якіх краінах. Украіна такія цэнтры робіць па ўсім сьвеце. Безумоўна, у РЦ павіннае быць добрае кампутарнае абсталяваньне, сувязь зь сеткаю інтэрнэт, сядзіба й г. д. Такія РЦ павінныя быць цэнтрамі першапачтковай падтрымкі грамадзкіх ініцыятываў нашых суродзічаў у замежжы. Як гэта зрабіць? Тут, мабыць, трэба шукаць альбо спонсараў, альбо атрымліваць грант у замежных фондаў, альбо чакаць, пакуль гэтым зацікавіцца дзяржава.

А зараз самае галоўнае: *нашая нацыя павінная адчуць сябе вялікай нацыяй. Наш народ павінен адчуць сябе годным народам. Нашая Бацькаўшчына павінная стаць самастойнай дзяржавай. Вось тады адбудзецца поўнае адраджэньне Беларусі!*

*Старшыня Іркуцкага Таварыства Беларускай Культуры імя Яна Чэрскага*
**Алег Рудакоў**



Нельга маўчаць

Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік (Народная Воля)

# Моўная трагедыя беларускага народа

Прыгажэйшы край у цэнтры Еўропы, які дадзены беларусам ад Бога, заўсёды прываблiваў суседнiя дзяржавы. Яны імкнуліся далучыць гэты край да сябе ўсялякімі метадамі -- і ваеннымі захопамі, і дыпламатычнымі хітрыкамі, і іншымі. Галоўны ж з іх -- гэта праца з тутэйшым дзеяздольным і таленавітым насельніцтвам шляхам яго асіміляцыі, і ў першую чаргу моўнай акупацыяй.

Ішла дзяржаўная мэтанакіраваная палітыка разбурэння мовы карэннага насельніцтва Беларусі -- аж да афіцыйнай забароны мовы спачатку ў Рэчы Паспалітай, а затым і ў царскай Расіі. Барацьба з мовай працягвалася некалькі стагоддзяў. Гэтаму працэсу садзейнічала і царква. У выніку прыпынілася развіццё беларускай цывілізацыі, а Беларусь стала выдатным донарам для іншых і асабліва суседніх культур. Дастаткова нагадаць геніяльных выхадцаў з Беларусі -- польскага паэта Адама Міцкевіча і расійскага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага. Магутная русіфікацыя не зменшылася і ў савецкі час: кароткая "беларусізацыя" хутка змянілася асабліва моцнай русіфікацыяй пасля барацьбы з "нацдэмаўшчынай" у 30-я гады.

Стан беларускай мовы на Беларусі катастрафічны. Апошнія носьбіты народнай мовы -- вясковыя беларускія жанчыны -- адыходзяць у нябыт. Амаль увесь люд беларускі ахапіла трасянка, якая, як правільна нядаўна адзначыў Анатоль Казловіч, стала народнай мовай беларусаў. За гэты працяглы час і трасянка змянілася. Калі спачатку яна базіравалася галоўным чынам на аснове беларускай мовы, у якую ўносілася ўсё больш рускіх слоў з вялікім беларускім акцэнтам, дык цяпер яна стала амаль поўнасцю рускай, перамешанай асобнымі беларускімі словамі і з характэрным беларускім вымаўленнем. Калі раней яна як бы троху і ахоўвала беларусаў ад поўнай русіфікацыі, дык цяпер стала зусім знямоглай.

Пасля таго як Беларусь атрымала самастойнасць і быў прыняты закон аб дзяржаўнай беларускай мове, апошняя пачала шпарка пашырацца. Асабліва яна замацавалася сярод прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння (рух БНФ, літаратурныя і мастацкія суполкі і інш.). Але кароткі час нацыянальнага адраджэння і ўздыму беларускай мовы быў рэзка абарваны лукашэнкаўскім рэферэндумам (1996 г.), які ўзаконіў так званае "двухмоўе", а затым яго ж указам пра дапаўненні ў "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" (1998 г.). зусім адкінуў беларускую мову ў другарадны стан. Беларуская мова пачала выціскацца адусюль і затрымалася галоўным чынам у асяродку творчай інтэлігенцыі і іншых так званых "апазіцыянераў". Таму калі хто загаворыць па-беларуску, дык часта можна пачуць засцярожанае пытанне: "Ты што, апазіцыянер?"

Не спрыяюць беларускай мове адмоўныя адносіны да яе кіраўніка дзяржавы, які неаднойчы з пагардай падкрэсліваў мізэрнасць мовы беларускай і з пафасам -- веліч рускай. У сваіх выступленнях, калі гаворыць пра апазіцыю і каб падкрэсліць яе нікчэмнасць, ён раптоўна і са здзекам пераходзіць з рускай мовы на беларускую. Гэты прыём перанялі некаторыя парламентарыі і халуйскія "тэлевізійныя салаўі" тыпу Новікава. У выніку ўся "вертыкаль" -- ад прэзідэнта краіны да старшыні сельсавета і калгаса -- стараецца размаўляць па-руску, а ў сапраўднасці часцей за ўсё атрымліваецца тыповая трасянка. Апошняя цалкам авалодала нават членамі Адміністрацыі прэзідэнта, урада, парламентарыямі і інш. Многія проста баяцца размаўляць па-беларуску, каб не падумалі, што яны "нацыяналісты" або знаходзяцца ў апазіцыі. Асабліва сумна і нават сорамна слухаць нашых дзяржаўных дзеячаў (у тым ліку і міністраў) гуманітарнага напрамку (Міністэрства інфармацыі, культуры, адукацыі, шэрагу універсітэтаў, акадэмій, інстытутаў і інш.), многія з якіх добра валодаюць беларускай мовай, але калі да іх звяртаецца з пытаннем карэспандэнт тэлебачання ці радыё па-беларуску, яны падкрэслена даюць адказ на рускай мове. Для многіх чыноўнікаў самае галоўнае -- захаваць сваё месца, не згубіць сваю ўладу, а словы аб "заботе о народе, его культуре" -- звычайная дэмагогія.

У нармальнай краіне ўсе яе грамадзяне, незалежна ад таго, да якой партыі яны належаць, якога ідэалагічнага напрамку прытрымліваюцца, прыхільна ставяцца да ўладаў ці не, гавораць на мове карэннай нацыі, і апошняя квітнее і развіваецца, незалежна ад палітычнай сітуацыі. У нас жа ўсё наадварот: хто падтрымлівае сучасную ўладу ў асноўным размаўляе на мове суседняй дзяржавы, большасць тых, хто яе крытыкуе -- на сваёй роднай. Беларуская мова зноў, як і ў былыя гады, стала палітычным падзелам паміж адной часткай насельніцтва і другой, а гэтае становішча шкодзіць пашырэнню беларускай мовы, нармальнаму развіццю грамадства.

Афіцыйна ў Беларусі існуе двухмоўе, але ў рэальным жыцці -- і яго няма. Кіраўнікі краіны, галоўная мэта якіх -- зліццё Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву, а больш правільна -- паглынанне меньшай вялікай, не зацікаўлены ў двухмоўі, і яны робяць усё магчымае, каб поўнасцю панавала руская мова, мэтанакіравана і няўхільна вядуць народ беларускі да рускага аднамоўя. Ужо можна гаварыць аб акупацыі Беларусі рускай мовай. Для сучаснай нашай дзяржавы беларуская мова не патрэбна, яна толькі перашкаджае палітыцы ўладаў, і таму яе крыху прымаюць у якасці "фігавага лісткa", каб хоць неяк прыкрыць існуючае варварскае разбурэнне беларушчыны. Без рускай мовы ў Беларусі пражыць немагчыма, а без беларускай нават лягчэй, бо менш шанцаў атрымаць знявагу тыпу злога вокрыка: "говорите на нормальном языке" ці ярлык "нацыяналіста", "фашыста"... Мінімізіраваць ужыванне беларускай мовы ў садках, школах, вышэйшых навучальных установах, у сродках масавай інфармацыі, літаратуры, культуры, навуцы, сферы абслугоўвання і г.д. -- відавочная мэта ўладаў, якую яскрава бачна "невооруженным глазом". Асабліва гэтая палітыка праявілася ў апошні час у барацьбе з беларускамоўнай часткай Саюза пісьменнікаў, у знішчэнні з пасады галоўных рэдактараў мастацкіх часопісаў выдатных пісьменнікаў, аб'яднанні ў выдавецкі холдынг шэрагу часопісаў і газет пад кіраўніцтвам адыёзных антыбеларускіх фігур, закрыцці некаторых газет і г.д. Выклікае абурэнне нахабства некаторых халуйствуючых пісак, якія прапануюць забараніць друкаваць творы лепшых беларускіх пісьменнікаў, вядомых ва ўсім свеце.

Беларуская мова стала зусім незапатрабаванай дзяржавай і значнай часткай грамадскасці. Пакуль будзе такое становішча, цяжка разлічваць на адраджэнне мовы, а разам з ёй -- на ўздым эканомікі, вытворчасці, культуры, навукі, на стварэнне квітнеючай багатай краіны. Такую дзяржаву могуць пабудаваць толькі сапраўдныя патрыёты сваёй Радзімы, а без роднай мовы яны не з'яўяцца.

Каб беларуская мова была ў Беларусі запатрабавана (а гэта галоўная неабходнасць сучаснага і будучага развіцця народа і краіны), трэба ўсіх чыноўнікаў (ад прэзідэнта РБ да самага маленькага клерка) прывесці як мінімум да сапраўднага двухмоўя. Напрыклад, ці можа карыстацца павагай парламентарый ці міністр, які не ведае роднай мовы свайго народа? Для яго калег з іншых краін -- гэта проста нонсенс. Чаму ў большасці краін свету іх жыхары абавязкова павінны ведаць родную мову, а людзі, якія хочуць атрымаць грамадзянства краіны, павінны здаць экзамен па мове? Без ведання беларускай і рускай моваў не можа чалавек працаваць у сферы абслугоўвання, асабліва дзяржаўнага. Хіба гэта нармальна, што не з кожнай пошты можна паслаць тэлеграму на роднай мове, калі ў большасці ўстаноў заяву ці іншы дакумент прымаюць толькі па-руску і г.д.і Любая дакументацыя (у тым ліку шыльды, назвы вуліц і г.д.) таксама павінна быць беларускамоўная ці хаця б двухмоўная. Бясспрэчна, беларускамоўная адукацыя павінна пашырацца -- ад садкоў і школ да вышэйшых навучальных устаноў. Усё гэта прывядзе да стварэння беларускамоўнага асяроддзя, якое не дазволіць загінуць роднай мове, а разам з ёй -- і беларускай нацыі. Калі дзяржава лічыць сябе беларускай, яна павінна падтрымліваць родную мову, нарэшце нармалізаваць сітуацыю з мовамі ў Беларусі.
Справа захавання і развіцця беларускай мовы цяпер амаль цалкам перайшла да нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, колькасць якой патроху расце, і, што вельмі прыемна адзначыць, за кошт моладзі. Нас ратуе тое, што беларуская зямля з яе цудоўнай прыродай, мяккімі прыгажэйшымі краявідамі нараджае народ-лірнік, з якога бесперапынна вылучаюцца паэты, мастакі, творцы з глыбокім пачуццём адданасці свайму роднаму куту, з нацыянальнай душой і сэрцам, цесна прывязанымі да родных каранёў. Ужо зараз яны ствараюць на беларускай мове выдатныя творы літаратуры і мастацтва, па розных напрамках ведаў энцыклапедыі, слоўнікі і г.д. Нягледзячы на велізарныя цяжкасці, якія ствараюць сучасныя ўлады, нацыянальна свядомая частка насельніцтва павінна зберагчы беларускую мову ад націску халуйствуючага чыноўніцтва, пранесці яе праз палітычныя буры аб'яднання, таталітарызму савецкай (камуністычнай) настальгіі, глабалізацыі і г.д., нармалізаваць у краіне моўнае жыццё, каб нашы нашчадкі былі ўдзячны за тое, што мы не далі загінуць беларускай мове, а з ёю -- і ўсёй беларускай нацыі.

**************************************

## Юбілейная Сустрэча...

1-2 верасьня 2002 г. адбылася 25-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Сустрэча праходзіла ў Нью-Брансвіку, штат Нью Джэрзі, ЗША. Як на юбілейную→Сустрэча выдалася сьціплаю і замкнутаю ў сваім беларускім асяродзьдзі...

## Беларусь — у ліку самых моцных матэматычных дзяржаваў

Нядаўна з Шатландыі вярнулася камада беларускіх вучняў, дзе ў Глазга праводзілася чарговая міжнародная алімпіяда па матэматыцы. У спаборніцтве з равеснікамі з 84 краін свету зноў каторы год запар усе нашы Лабачэўскія і Соф'і Кавалеўскія вярнуліся з узнагародамі. Залаты медаль у Дзмітрыя Дудко, сярэбраныя ў Вікторыі Лебедзь і Уладзіміра Колтуна, бронзавы медаль у Лены Пірутка. Усе яны прадстаўнікі флагмана нашай адукацыі ліцэя БДУ. Бронзавыя медалі таксама ў Паўла Карловіча з Баранавіч і Станіслава Галаўнёва з Віцебска. Раней нашы каманды складаліся поўнасцю з хлопчыкаў, і ўдалае выступленне Вікі і Лены, якой да серабра не хапіла толькі аднаго бала, сведчыць, што эмансіпацыя ўжо дасягнула матэматычных вяршынь.

У неафіцыйным камандным заліку наперадзе бясспрэчны лідэр апошніх гадоў Кітай, затым Расія, ЗША. Мы лепшыя за Расіяй з краін СНД, не надта многа прайгралі ЗША, але наперазе традыцыйна моцных матэматычных дзяржаў Вялікабрытаніі, Ізраіля, Польшчы, Францыі, Чэхіі. Каманду рыхтавалі да спаборніцтваў група студэнтаў былых славутых алімпіяднікаў з БДУ пад кіраўніцтвам дацэнта мехмата БДУ Ігара Варановіча і прафесара Сяргея Мазаніка з факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ. Яны ж абаранялі ў Глазга інтарэсы нашай каманды пры каардынацыі ацэнак работ нашых вучняў. Арганізацыйныя пытанні і пытанні быту вырашала галоўны інспектар Міністэрства адукацыі Наталля Гаравая.

Пажадана, каб тым накірункам дзейнасці, дзе ў нас на працягу многіх гадоў добрыя поспехі, удзялялася больш увагі. На жаль, часам назіраецца нават скарачэнне праграм працы са здольнымі дзецьмі, што, безумоўна, не спрыяе перспектывам далейшых поспехаў.

Васіль БЕРНІК.

==========================================

## Заснаваны рух дэмакратычных сілаў

**Ён атрымаў назву "Гродзенскі выбар". На ўстаноўчым сходзе вырашана, што Рух — гэта актыўныя грамадзяне, для якіх важныя чалавечыя правы, суверэнітэт Беларусі, плюралізм, рынкавая эканоміка і вяршынства Закону.** Пакуль што ўступныя заявы напісалі 22 чалавекі: прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, БНФ "Адраджэньне", Аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі, а таксама прадпрымальнікі, сябры Незалежнага прафсаюзу і некаторыя іншыяАбраныя Рада і старшыня Руху. Ім стаў Зміцер Іваноўскі — намеснік кіраўніка гарадской арганізацыі БНФ. Ён не хавае, што новая арганізацыя ўзнікла на фоне бяздзейнасці каардынацыйнага камітэту "Гродзенская ініцыятываПа словах Зміцера Іваноўскага, у дадзеным выпадку разглядаецца новы этап працы "Гродзенскай ініцыятывы". Справа ў тым, што "Гродзенская ініцыятыва" — гэта клуб старшыняў палітычных партыяў і грамадскіх арганізацый. Але там не былі прапісаныя правілы паводзінаў, прыняцця рашэнняў. І гэта пагоршыла вынікі самой працы.

Каардынацыйны камітэт стварыўся, маючы на мэце прэзідэнцкія выбары. Адна з галоўных мэтаў Руху — дапамога дэмакратычным кандыдатам на будучых выбарах у мясцовыя Саветы.

Асаблівасцю сходу стала прысутнасць двух дэпутатаў-гродзенцаў з палаты прадстаўнікоў. Ганна Бурава і адстаўны генерал Валерый Фралоў пажадалі новаму Руху плёну і дэкларавалі сваю падтрымку.

==========================================

## Працягваецца прэзентацыя "Новай зямлі"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі фонд культуры" працягвае прэзентацыю выдання "Новай зямлі" Якуба Коласа, што выйшла ў гэтым годзе на трох мовах -- беларускай, польскай і рускай.

Прэзентацыя кнігі суправаджаецца выставай малюнкаў Васіля Шаранговіча. Яна прайшла ў Варшаве, Мінску, Светлагорску, Стоўбцах і Нясвіжы. 22 жніўня "Новая зямля" разам з 92 малюнкамі народнага мастака апынуцца ў Музеі беларускага Палесься ў Пінску. Выстава будзе доўжыцца месяц. У кастрычніку прэзентацыя кнігі запланавана ў Латвіі. На гэты конт ужо існуе папярэдняя дамоўленасць паміж Беларускім фондам культуры і пасольствам Беларусі ў Латвіі.

Увогуле па лініі Міністэрства замежных спраў Беларусі арганізатары праекта маюць намер разаслаць кнігу ва ўсе краіны, з якімі Беларусь падтрымлівае дыпламатычныя сувязі.

БелаПАН.

Чытачы кнігі зьвяртаюць увагу на дапушчанае хамства – у расейскім (дарэчы скарочаным) і беларускім тэкстах, слова **Бог** друкуецца з малое літары…

**************************************************

# Мы прымаем архітэктурны выклік часу. І ня толькі...

**Цяпер, бадай, кожны беларус ведае, што неўзабаве ў сталіцы пачне будавацца новы, унікальны ў архітэктурным плане, будынак галоўнай бібліятэкі краіны. Пра неабходнасць такога аб'екта, пра яго важнасць для ўсёй нацыі неадночы гаварылася на самым розным узроўні -- ад простых грамадзян да абгрунтаваных, узважаных і пераканаўча-доказных выказванняў прафесіяналаў у самых розных галінах чалавечай дзейнасці. Навуковая эліта, работнікі культуры і мастацтва, грамадскія і палітычныя дзеячы, студэнты, -- усе, хто хоць крышачку дбае пра будучыню сваёй Бацькаўшчыны, выдатна разумеюць: без сучаснага буйнога інфармацыйнага цэнтра, якім і павінна стаць Нацыянальная бібліятэка, не абысціся ні ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі, ні тым больш у аддаленай перспектыве. Гаворка ідзе пра жыццёва неабходнае, пра выжыванне нацыі ў варунках імклівага і татальнага наступу новых ведаў, тэхналогій, глабалізацыі ўрэшце. Рэч у тым, каб не толькі не адстаць ад сусветных працэсаў у галіне навукі, адукацыі, але пры гэтым і захаваць нацыянальную адметнасць уласнай культуры, самабытнасць і непаўторнасць беларускага этнасу. Трэба зразумець і ўсвядоміць, што Нацыянальная бібліятэка -- не адно інструмент пазнання для кожнага наступнага пакалення, не толькі захавальніца кніжных скарбаў народа, але і духоўная спадчына ўсяе нацыі. Яна ўрэшце -- храм ведаў, адзін з галоўных сімвалаў дзяржаўнасці...**

**Якраз з гэтае прычыны, кіруючыся патрэбамі не толькі дня сённяшняга, але і будучыні і была падтрымана ідэя будаўніцтва новай, суперсучаснай бібліятэкі прэзідэнтам краіны. Вясною быў падпісаны адпаведны ўказ -- "Аб будаўніцтве будынка дзяржаўнай установы "Нацыянальная бібліятэка Беларусі". Будаўніцтва было аб'яўлена "важнейшай дзяржаўнай і агульнанароднай будоўляй". Абнародаваны і тэрмін уводу аб'екта ў эксплуатацыю -- 2002--2005 гг. Справа, як кажуць, за малым -- пабудаваць...**

**Але не ўсё так проста. Праект, безумоўна, унікальны нават па еўрапейскіх і сусветных мерках, але для Беларусі надзвычай дарагі. Тэрміны ўзвядзення -- таксама вельмі сціслыя. Словам, праблемы, нягледзячы на тое, што архітэктары, праекціроўшчыкі і будаўнікі поўныя энтузіязму і жадання зрабіць усё магчымае і немагчымае, ёсць... Ды -- калі і дзе іх не было, асабліва на пачатку вялікай справы?..**

**Сваімі думкамі на гэты конт, а таксама пра сваё бачанне сітуацыі вакол "праекта веку" разважаюць непасрэдна тыя людзі, якія распрацавалі яго і павінны ўвасобіць у жыццё...**

**Віктар Уладзіміравіч КРАМАРЭНКА,**
**галоўны архітэктар праекта:**

-- Толькі што мне, разам з калегамі, давялося пабываць на Захадзе -- у Варшаве, Франкфурце-на-Майне, Бруселі, Парыжы... Знаёміліся, што называецца, з лепшымі на сёння ўзорнымі еўрапейскімі бібліятэкамі. Зразумела, каб параўнаць з нашым праектам, нешта пераняць і г.д. Мы, прызнацца, трохі хваляваліся, бо з моманту, калі быў зроблены эскізны праект Нацыянальнай бібліятэкі, прайшло... 12 гадоў. Менавіта ў 1990 годзе мы з Міхаілам Вінаградавым перамаглі ў конкурсе на лепшы праект Нацыянальнай бібліятэкі. За гэты час, безумоўна, з'явіліся нейкія новыя павевы не толькі ў еўрапейскай архітэктуры, але і ў мысленні тых, хто ёю займаецца. Ці не адсталі ад часу: перад намі ж ставілася задача зрабіць праект, а значыць і непасрэдна такую бібліятэку, якая б адпавядала сусветнаму архітэктурнаму і функцыянальнаму ўзроўню. Мы, кіруючыся такой звышзадачай, і тварылі -- каб на вякі, каб не было сорамна перад нашчадкамі ні нам, ні нашаму пакаленню...

Паездка была надзвычай карыснай, змястоўнай ва ўсіх адносінах. Па-першае, мы ўпэўніліся (гэта было відаць нават па рэакцыі нашых замежных калег, якія да драбніц унікалі ў чарцяжы і планы), што наш праект абсалютна не саступае ні па якіх кампанентах лепшым замежным, ужо дзеючым аб'ектам. А па многіх параметрах -- пераўзыходзіць тое, што мы пабачылі. Увогуле, мы атрымалі адказы на шматлікія пытанні, але далёка не на ўсе... Адно несумненна -- мы на правільным шляху і трэба рухацца менавіта ў гэтым напрамку...

Безумоўна, наш праект надзвычай складаны для рэалізацыі і ў фінансавым плане, і ў матэрыяльна-тэхнічным, і ў якім хочаце. Ён не ідзе ні ў якое параўнанне нават з такімі аб'ектамі (найноўшымі і сучаснымі ў архітэктурным плане), як Чыгуначны вакзал (па сутнасці, комплекс) у сталіцы, Універсітэцкі гарадок, ці праект будучай тэлевежы... Усё гэта мне даводзілася праектаваць, папярэдне выйграўшы розныя конкурсы і тэндэры, але, паўтаруся, архітэктурны праект Нацыянальнай бібліятэкі -- гэта нешта незвычайнае і, спадзяюся, вартае новай Беларусі і новага стагоддзя.

**Міхаіл ВІНАГРАДАЎ,**
**галоўны архітэктар праекта:**

-- Хачу патлумачыць, чаму новая Нацыянальная бібліятэка будзе размешчана не дзе-небудзь, а менавіта на ўезддзе ў Мінск з боку Маскоўскай магістралі. Выбар, зразумела, абсалютна невыпадковы... Дарэчы, разглядалася даволі шмат варыянтаў, недзе з дзесятак. Спыніліся на дадзенай пляцоўцы па трох прычынах. Па-першае, з-за даступнасці транспарту: побач станцыя метро "Усходняя", аўтобусныя і тралейбусныя маршруты; па-другое, раён не загрувашчаны старымі пабудовамі, будаўнічымі аб'ектамі, і, па-трэцяе -- гэта абсалютна зялёная, экалагічна прымальная зона... Апошняе вельмі важна, мы ў гэтым пераканаліся, калі вывучалі архітэктурны план бібліятэкі Варшаўскага універсітэта. Удала скарыстаўшы прыродны ландшафт, польскія архітэктары, апроч таго, максімальна выкарысталі зялёныя насаджэнні па ўсім перыметры будынка, нават на даху. Там паўсюль зялёныя газоны, сады, безліч кветак і г.д. Тое ж мы ўбачылі ў Парыжы. Бібліятэкі як бы ў абрамленні садоў, зялёных астраўкоў, квецені. Усё нагадвае ўтульны і надзіва дагледжаны парк для адпачынку. Нездарма многія варшавяне, не абавязкова наведвальнікі бібліятэкі, імкнуцца патрапіць сюды, каб проста адпачыць, палюбавацца ландшафтам, які быццам зліўся з прыгожым архітэктурным дзівам.

Прыкладна тое ж плануецца і ў нас. Праўда, мы вырашылі пайсці крышку далей у гэтым плане: зялёныя насаджэнні будуць не толькі знадворку бібліятэкі, але і ўнутры. Усё гэта невыпадкова, не даніна модзе, а неабходнасць, бо жывы зялёны колер не проста супакойвае, радуе вока, але і дазваляе засяродзіцца, настроіцца, садзейнічае ўсталяванню псіхалагічнай раўнавагі.

Зразумела, кожная з тых бібліятэк, што мы наведалі ў Еўропе, не падобная адна на другую. Пры агульнасці асноўнай функцыі яны тым не менш выконваюць і шэраг адрозных задач.

У фондах Варшаўскай універсітэцкай бібліятэкі -- дзве з паловай адзінкі захавання, прычым 1 млн. кніг -- у свабодным абарачэнні. Там маюцца невялікія залы для чытачоў, асобныя кабіны і г.д. Сістэма даволі дэмакратычная і максімальна прыбліжаная да патрэб карыстальнікаў. Многае выкарыстаем і мы, хоць у нас маштаб некалькі іншы... Цікава, што ў Варшаўскай бібліятэцы шмат месца арандуюць розныя рэстараны, кафэ, паркавачныя стаянкі і г.д. Думаю, гэта звязана з тым, што будаўніцтва тамтэйшай бібліятэкі абышлося таксама ў велізарную капейчыну, а цяпер вось прыходзіцца акумуляваць сродкі такім чынам. Ды што зробіш, па-другому, відаць, у наш час нельга...

**Людміла Мітрафанаўна ШОХІНА,**
**галоўны інжынер праекта:**

-- Калі мне гавораць, што Нацыянальная бібліятэка -- усяго толькі адзін з амаль шасціста аб'ектаў, якія праектуюцца і будуюцца "Мінскпраектам", то я катэгарычна з гэтым не пагаджаюся... Нацыянальная бібліятэка -- аб'ект нумар адзін! Гэта важна ўсвядоміць з самага пачатку. Бо ён унікальны, непаўторны, неверагодна складаны і, галоўнае, прыярытэтны для ўсёй краіны. І адносіцца да яго трэба адпаведна. На самай справе, дзе і калі мы такое будавалі? Адна вага канструкцыі (вышынёй у 25 паверхаў) пацягне на 126 тысяч тон... Больш чым у два з паловай разы пераўзыходзіць вагу Астанкінскай тэлевежы! Я ўжо маўчу пра суперсучаснае архітэктурнае рашэнне.

Важна зразумець, што тэрмін эксплуатацыі бібліятэкі разлічаны не на сто--дзвесце гадоў, а на значна большы тэрмін, на многія стагоддзі. Некаторыя, ведаючы сціслыя тэрміны ўзвядзення аб'екта, даволі спрошчана ўяўляюць сітуацыю, маўляў, ёсць праект, дык заўтра можна і падмурак закладваць. Не, не ўсё так проста і адназначна...

Будоўля будзе разварочвацца ў тры этапы, па меры гатоўнасці архітэктурнага праекта і рабочых планаў. Спачатку будзе ўзводзіцца падмурак высотнай часткі і сам, так бы мовіць, крышталь (верхняя кропка -- 72 метры), а пасля ўжо -- чарга за ніжнімі, падземнымі і надземнымі паверхамі (дыяметр забудовы -- 180 метраў)...

Безумоўна, будаўніцтва запатрабуе высакакласных спецыялістаў -- і праектантаў, і інжынерных кадраў, і проста будаўнікоў. Напрыклад, калі мы ўзводзілі аэрапорт Мінск-2, то была створана спецыяльная група з самых лепшых, самых вопытных спецыялістаў. Не выключана, што і тут будзе менавіта так.

І яшчэ... Адносна каштарыса будаўніцтва. Тыя 134 млн. долараў, якія фігуруюць у прэсе, -- гэта падлікі (натуральна, у беларускіх рублях) дзесяцігадовай даўніны, якія закладваліся на аснове эскізнага праекта. Але час цяпер іншы. Зразумела, за гэты час многае памянялася. Гаворка, аднак, пра тое, што каштарыс можа мяняцца -- як у адзін бок, так і ў другі. Усё будзе залежаць ад канчатковых падлікаў на аснове рабочых праектаў, у якія будзе закладзена (альбо не закладзена) тая ці іншая пазіцыя. Тут і электроннае начынне, тут і асвятленне, тут і пажаратушэнне, і тэлебачанне, і кандыцыянеры, і многае іншае. Карацей, вызначыцца кошт кожнай асобнай тэмы, а потым і ўся сума. Безумоўна, праект дарагі, але ж памятайма, што мы будуем...

Я, напрыклад, і ўсе мае калегі верым, што аб'ект нумар адзін, калі хочаце, праект XXI ст. нам па плячы. Па-іншаму, калі мы хочам ісці ў нагу з часам, быць не можа...

**Галіна Мікалаеўна АЛЕНІК,**
**дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі:**

-- Як вядома, ужо створана і дзейнічае унітарнае прадпрыемства "Дырэкцыя будаўніцтва будучай Нацыянальнай бібліятэкі". І большасці беларусаў, спадзяюся, вядома таксама, што аб'ект нумар адзін, як сказала Людміла Мітрафанаўна, аб'яўлены "важнейшай дзяржаўнай і агульнанароднай будоўляй". А гэта значыць, што мы здолеем справіцца з няпростай задачай толькі ўсе разам. Разумею, што мы жывём у няпросты, нялёгкі час, што кожная сям'я стараецца зберагчы капейчыну, што не хапае таго і гэтага. Але пры ўсім пры тым мы павінны разумець, што галоўная бібліятэка краіны -- гэта для ўсіх нас, для нашых дзяцей, унукаў, праўнукаў... Я сказала б, якраз цяпер і правяраецца ці, скажам так, выпрабоўваецца наш народ, нацыя на трываласць, на высокасць памкненняў.

Не так даўно калегія Міністэрства культуры звярнулася да арганізацый і ўстаноў, усіх работнікаў культуры і мастацтва з просьбай унесці свой уклад у ажыццяўленне вялікай, грандыёзнай справы і аказаць фінансавую дапамогу будаўніцтву Нацыянальнай бібліятэкі краіны. На дабрачынны рахунак ужо пачалі паступаць грошы. Пакуль іх не вельмі шмат, але, мне так здаецца, справа пойдзе. Мы ж спрадвеку вялікія справы заўсёды ладзілі талакой... Галоўнае, памятаць: удзел у будаўніцтве храма мудрасці, асветы, навукі павінен стаць не прымусам, а святым абавязкам кожнага сумленнага беларуса...

У добры шлях, шаноўныя суайчыннікі... І няхай нам спрыяе ўдача!

**Георгій ЧЫГІР** (Нар. Газэта)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

Нявыдуманая гісторыя

# Канапляначка

Па-суседству з маёй цёткай ёсць нежылая сядзіба. Ды тое, што засталося, і сядзібай ужо назваць нельга: напалову павалены плот, здзічэлыя яблыні ўздоўж яго, кусты агрэсту, які ўжо даўно не цвіце і не пладаносіць. Па зарослым бур'яном каменным падмурку няцяжка здагадацца, што некалі тут была хата. Цётка перасялілася ў гэтую вёску нядаўна. Нібыта купіла акуратненькі, яшчэ не стары дамок пад дачу, каб цёплую пару года праводзіць на вольным паветры, але яе гарадскія дзеці палічылі інакш. І дачка, і зяць, і нават унучка, якая, кажучы словамі цёткі, ужо бярэцца пад дзеўку, вырашылі, што старой будзе някепска дажываць тут усе астатнія дні. Іх таксама можна зразумець: маленькая хрушчоўка на чатыры чалавекі — не Бог ведае, якая раскоша.

Цётка прыняла ўсё належным чынам, без сварак і скандалаў, хутка знайшла сабе ў вёсцы сяброван і зажыла можа нават лепш, чым у горадзе. Праз які год яна ўжо шмат што ведала з мясцовага жыцця і пры сустрэчах ахвотна расказвала мне. А гісторыю пра Канапляначку яна расказвала з асаблівай чуллівасцю, раз-пораз змахваючы з вачэй слязу замілавання.

... Там, дзе цяпер застаўся падмурак і здзічэлыя яблыні, некалі была добра дагледжаная сядзіба. Гаспадарыла ў ёй адзінокая жанчына. Бацькі паўміралі, а тры браты жылі на Поўначы. Старэйшы служыў там у арміі ды так і застаўся. А потым паклікаў да сябе і двух малодшых. А Сабіна, так звалі сястру, засталася адна ў вялікай хаце. Тады, пасля вайны, нялёгка ёй даводзілася, бо трымала гаспадарку, нейкі час нават мела свайго каня, пакуль не забралі ў калгас.

Сабіна ў дзеўках звекавала. Калі мінула сорак гадоў, ужо не спадзявалася ні на якое замужжа, а рыхтавала сябе да адзінокай беспрытульнай старасці. Аднак, праўду кажуць людзі, што ніхто не ведае свайго лёсу. Так і Сабіна...

У той год соткі вяскоўцам далі ля самай чыгункі, можа метраў за дзвесце ад паўстанка. Жвавае месца, бо тады людзей у вёсцы было шмат, кожная хата звінела дзіцячымі галасамі, і малыя час ад часу бегалі на паўстанак сустракаць пасажырскія цягнікі. Менавіта яны аднойчы і прынеслі Сабіне дзіўную вестку:

— Цётка! — крычалі навыперадкі. — Ля вашых сотак, там, дзе каноплі, малое спавітае ляжыць!

Ідзіце паглядзіце! Мабыць, нехта падкінуў.

Сабіна падбегам кінулася за вёску. У той час яшчэ можна было сеяць і мак, і каноплі, і яна сапраўды пасеяла на ўскрайку сотак нейкі лапік зеленаватых зярнят. Проста так, без усякай патрэбы, бо вельмі любіла, як летам пахнуць сагрэтыя сонцам сцяблiны.

Яна напрасткі ішла да сваіх сотак, а ўслед ледзь паспявалі вясковыя дзеці. Яшчэ здалёк Сабіна ўбачыла чырвоны скрутачак ля самых канопляў. Малое, якому можа не было яшчэ і двух месяцаў, кугакала на ўсё поле, і, падпарадкоўваючыся мацярынскаму інстынкту, які жыве, мабыць, у кожнай жанчыне, падхапіла яго на рукі, прытуліла да грудзей і, супакойваючы, угаворваючы, зноў наўпрасткі пайшла да вёскі.

Дома, раскруціўшы пялюшкі, убачыла, што лёс паслаў ёй дзяўчынку. Смугленькую і цёмнавокую, але з белымі валасамі.

— Ах ты, мая Канапляначка, — сказала ласкава. — Напэўна, сам Бог падарыў цябе мне. Не плач, я не пакрыўджу...

Сабіна наліла ў ночвы цёплай вады, пакупала дзяўчынку. Потым напаіла свежым каровіным малаком.

Вясковыя дзеці назіралі за ўсім як зачараваныя. А потым, калі Сабіна паклала дзяўчынку спаць, яны выбеглі з хаты і панеслі па вёсцы вестку: у цёткі Сабіны будзе жыць Канапляначка.

Праз нейкі час жанчына ахрысціла малышку, удачарыла яе. Імя дала мілагучнае — Алеся. Але ніхто ў вёсцы ды і сама маці так ніколі дзяўчынку не называў. Канапляначка... Як прамовіла з першай хвіліны, так і прыляпілася на ўсё жыццё.

Дзяўчынка расла прыгожанькая і працавітая, ахвотна дапамагала маме палоць калгасныя дзялкі, пасвіла кароў. І вучылася добра: сем класаў, якія тады павінен быў адхадзіць кожны вучань, закончыла на адны пяцёркі. Закончыць то закончыла, а што далей? Сярэдняя школа была за дзесяць кіламетраў ад іхняй вёскі. Трэба было наймаць кватэру, даваць з сабой харч. А такое магла сабе дазволіць рэдка якая вясковая сям'я. І Сабіна не магла, а вельмі хацела вучыць Канапляначку.

Многія сельскія дзяўчаты і заставаліся з такой адукацыяй. Выходзілі замуж, абсыпаліся дзецьмі. З рання да змяркання цягнучы лямку і ў калгасе, і на сваёй сядзібе, старэлі раней часу. Не, Сабіна такой долі сваёй Канапляначцы не хацела. І тут аднойчы надарыўся выпадак. Павезла ў Мінск прадаваць масла ды яйкі. Падышла да яе на кірмашы маладая прывабная жанчына. Купіла сабе масла, а потым і кажа:

— Можа вы ведаеце, дзе маладзенькую няню для майго сыночка наняць? Я б добра заплаціла, а потым, як малы падрасце, дапамагла б прыпісацца ў горадзе і знайсці дзяржаўную работу.

— Ведаю! — узрадавалася Сабіна. — Дачушку маю да сябе вазьміце, Канапляначку. Вельмі добрая дзяўчынка.

— Якое дзіўнае імя... Канапляначка.

— Не, імя ёй Алеся, а гэта так, па-дамашняму.

Яны адразу аб усім дамовіліся, і праз некалькі дзён Сабіна завезла сваю дачушку ў горад. Плакалі абедзве, так не хацелі расставацца, але Сабіна настаяла, угаворвала і сябе, і дзяўчынку: так трэба. Канапляначка ў горадзе прыжылася хутка. Гаспадары і іх маленькі сынок Максімка палюбілі яе як родную, бо была вельмі ласкавая, паслухмяная ды рахманая.

Калі хлопчыку споўнілася пяць гадоў, бацькі нанялі для яго настаўніцу, каб вучыцца музыцы. Жылі яны багата, бо бацька Максімкі быў вялікім вучоным і добра зарабляў. Сынок нарадзіўся, калі тату ўжо споўнілася пяцьдзесят гадоў, і таму малыш быў у доме самай важнай асобай. Крышку распешчаны, але з добрым і спагадлівым сэрцам.

Ён хутка навучыўся іграць на піяніна і радаваў бацькоў сваімі поспехамі. Калі хлопчык з настаўніцай займаўся музыкай, Канапляначка кідала ўсю работу і як зачараваная слухала мелодыю. Ёй здавалася, каб толькі дазволілі, і яна магла б навучыцца іграць не горш за Максімку.

Аднойчы хлопчык іграў дзівосную мелодыю. Канапляначка, абапершыся аб дзвярны вушак, слухала з такім замілаваннем, што на вачах паказаліся слёзы. Яна не чула, што дадому вярнулася гаспадыня і таксама стала слухаць. Раптам убачыла ў дзяўчынкі слёзы.

— Ты чаго плачаш? — спытала са спагадай.

— Гэта ад музыкі... Я таксама хачу навучыцца...

З гэтага дня і пачалося. Канапляначка ўсё лавіла на ляту. У яе былі такі цудоўны музычны слых, такое жаданне іграць, любоў да музыкі, што праз невялікі прамежак часу настаўніца ўключыла музычную п'есу ў выкананні Канапляначкі ў канцэртную праграму, што ладзілася ў горадзе з нагоды Першамая. Спецыялісты, якія па просьбе настаўніцы прыйшлі паслухаць дзяўчынку, у адзін голас заявілі: ёй трэба сур'ёзна займацца музыкай. І з восені, калі Максімка пайшоў у школу, Канапляначку прынялі ў музычнае вучылішча. Жыць яна засталася ў ранейшых гаспадароў. Яны і адзенне ёй куплялі, і есці садзілі за свой стол. Словам, як раней.

Калі Канапляначка заканчвала музычнае вучылішча, да гаспадара ў госці прыехаў вучоны з Англіі. Не адзін прыехаў, а з жонкай і сынам. І сын гэты, амаль на дзесяць гадоў старэйшы за Канапляначку, закахаўся ў яе з першага погляду. Можа чорныя вочы і смуглы твар прывабілі маладога англічаніна, а можа дзве тугія русыя касы, што звісалі амаль да каленяў, але ён пакінуў тут сваё сэрца. Ды ненадоўга пакінуў. Калі Канапляначка закончыла вучобу, ён з бацькамі зноў прыехаў у горад, каб забраць дзяўчыну ў далёкі туманны Лондан, дзе б магла далей вучыцца музыцы.

Цётка змоўкла, выцерла слязу расчуленасці, бо надта ж ёй былі сімпатычныя добрыя і бескарыслівыя людзі.

— А што далей? — не цярпелася даведацца мне.

— Паехала. Атрымала там вышэйшую музычную адукацыю. Стала прафесійным музыкантам, іграе ў вялікім аркестры. І выйшла замуж за таго маладога чалавека, які многае зрабіў дзеля таго, каб яе талент не згубіўся.

— А Сабіна? — успомніла я. — Як жа жыла мама Канапляначкі?

— Ды нядоўга і яна тут затрымалася. Калі Канапляначка вывучылася ды выйшла замуж, то і маму да сябе забрала. У Лондане цяпер Сабіна. Старэнькая ўжо, але здароўе мае, выглядае добра. Людзі казалі, два гады таму прыязджала сюды. Пастаяла над гэтым зарослым падмуркам, бо вяскоўцы хату на дровы разабралі, схадзіла да чыгункі. А потым села ў машыну, што ўвесь час чакала яе на вуліцы, і паехала. Праўда, жанчынам, якія падыходзілі пагаварыць, падарыла прыгожыя хусткі. Напэўна, спецыяльна везла, як сувеніры.

Потым у вёсцы гаварылі, што прывозіў яе сюды той Максімка, якога некалі гадавала Канапляначка, што і ён цяпер таксама жыве ў Англіі і таксама стаў музыкантам. Іграе ў тым жа аркестры, што і Канапляначка.

— Дабро заўсёды абернецца для чалавека дабром, — з упэўненасцю сказала цётка. І пярэчыць ёй у гэтым выпадку ніяк не выпадала.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ** (Газэт. Слонімская)

## "На вучобу ў Амэрыку"

Упэўненую перамогу ў спецыяльным адборачным конкурсе па праграме школьных абменаў, які фінансуецца дзяржддэпартаментам ЗША, атрымала вучаніца пастаўскай СШ №1 Кацярына Лысёнак.

Атрымала магчымасць вучыцца год за акіянам і там закончыць школу. Упершыню пастаўскія школьнікі ў падобных выпрабаваннях паспрабавалі свае сілы год назад, але безпаспяхова. На гэты раз свае веды англійскай мовы і агульную эрудыцыю паказалі тры вучаніцы педагога Эдзіты Бушуевай з гэтай школы з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы. Аднак поспех з больш чым тысячы прэтэндэнтаў з лепшых беларускіх школ усміхнулася толькі Каці. У ліку першых сарака пераможцаў конкурсу Лысёнак прайшла ўжо падрыхтоўчы вучэбны семінар у Маскве, дзе даведалася, што эрудыты з краін СНД будуць жыць і вучыцца за акіянам. Акрамя таго, будуць атрымліваць стыпендыю. Жыць вучні будуць у спецыяльна падабраных сем'ях, а ад'езд у ЗША намечаны ў першых датах жніўня…

## За пяць гадоў плануецца завяршыць рэстаўрацыю палацава-паркавага ансамбля ў Нясвіжы

БелаПАН

За 5 гадоў плануецца завяршыць рэстаўрацыю палацава-паркавага ансамбля XVI — XVIII стагоддзяў у Нясвіжы (Мінская вобласць). Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН паведаміў дырэктар дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Васіль Абламскі.

Як вядома, у лістападзе мінулага года была прынята пастанова ўрада «Аб рэстаўрацыі і прыстасаванні палацава-паркавага ансамбля ў Нясвіжы». Аднак, як адзначыў В. Абламскі, працы па рэстаўрацыі будынка вядуцца з 1997 года. Згодна з ужо падрыхтаваным эскізным праектам, замак будзе прыстасаваны пад культурна-асветны цэнтр са стацыянарнай музейнай экспазіцыяй і з аднаўленнем інтэр'ераў галоўных залаў палаца. Частку памяшканняў плануецца прыстасаваць пад залы перасоўных выстаў, сховішчы фондаў і гандаль сувенірнай прадукцыяй. У замку плануецца абсталяваць канферэнц-залу, гатэльныя нумары і рэстаран.

Для каардынацыі вядзення рэстаўрацыйных работ 9 жніўня ўрад стварыў штаб на чале з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Дражыным. Прычым, Савет Міністраў даручыў зацікаўленым міністэрствам і ведамствам у сціслыя тэрміны забяспечыць правядзенне ўсіх відаў работ з мэтай уводу ў эксплуатацыю Нясвіжскага замка ў 2006-2007 гадах.

Замак у Нясвіжы быў закладзены князем Мікалаем Крыштафам Радзівілам Сіроткай у 1583 годзе на месцы больш ранняга драўлянага збудавання 1547 года. У замку захоўваліся каштоўныя калекцыі твораў мастацтва, зброі, фамільныя партрэты магнацкага роду Радзівілаў, бібліятэка і архіў. Начыннне інтэр'еру комплексу захавалася часткова. З 1945 па 1 жніўня 2001 года ў замку знаходзіўся санаторый «Нясвіж».

Гэты санаторый спаскудзіў нясьвіжскі замак…

## Пра Ігната Дамейку – героя Чылі – па-польску і па-беларуску

**У Варшаве выдана кніга «Ігнат Дамейка».**

Яе аўтары Ядвіга Гарбоўска і Кшыстаф Якубоўскі расказваюць пра вучобу нашага земляка ў Шчучыне і Вільні, яго дзейнасць у таварыствах філаматаў і філарэтаў і вымушаным пераездзе ў Жыбуртаўшчыну (каля Дзятлава) і Заполле пад Лідай, дзе ён працаваў у маёнтках дзядзькі. Значнае месца ў кнізе адведзена бліскучай кар'еры Ігната Дамейкі на амерыканскім кантыненце. Там ураджэнец Мядвядкі (паблізу Міра) стаў сусветна вядомым вучоным і атрымаў годнасць нацыянальнага героя Чылі.

Кніга выдадзена на польскай і беларускай мовах, змяшчае цікавыя ілюстрацыі, вытрымкі з дзённікаў і лістоў знакамітага вучонага і з іншых крыніц.

# Скаўцкі летнік

Валожын. На мінулым тыдні каля вёскі Падневічы прайшло джамбары скаўтаў хрысціянскага саюза маладых людзей. Джамбары перакладаецца як "збор старэйшын". На рацэ Іслач сабраліся самыя падрыхтаваныя скаўты з Украіны, Швейцарыі, Эстоніі, Літвы і Беларусі (Маладзечна, Віцебск, Ліда, Валожын, Мінск, Бабруйск). Праграма была вельмі насычаная: спартыўны дзень, скаўцкія гульні, дзень смеху, кірмаш, дзень нацыянальных культур, дзень экстрэмальнага турызму. Надвор'е вычваралася, як магло, таму ўдзельнікам джамбары давялося тушыць пажар, што ўзнік на другім беразе ракі, і ратаваць палаткі ад надзвычайнага ветру, што ўзняўся 31 ліпеня перад навальніцай. Развітальнае вогнішча, абмен адрасамі – і ўсе раз'ехаліся на год, каб сустрэцца на наступным джамбары.

# У які порт плысьці?

…На старонках "Народнай волі" былі надрукаваны меркаванні вядомых грамадзян краіны аб Нацыянальнай ідэі беларусаў. Як казаў Сенека: "Калі карабель не ведае, у які порт яму плысьці, то ні адзін вецер ня будзе яму спадарожны".

Мне здаецца, гэтую размову варта прадоўжыць. Для прыкладу выказваю свае меркаванні на гэты конт. Нацыянальная ідэя, на мой погляд, гэта:

* маштабнае ўспрыманне лёсавызначальнай для нацыі мэты;

* тое, што аб'ядноўвае ўсіх для дасягнення гэтай мэты.

Нацыянальная ідэя азначае: ва ўмовах свабоднай, незалежнай, парламенцкай дзяржавы з цывілізаванымі, прызнанымі ўсім светам законамі, развіваючы лепшыя нацыянальныя рысы характару беларуса -- працавітасць, адукаванасць, шчырасць, прыгажосць душы, вывесці яго з галечы да заможнага жыцця, заслужыць павагу і дастойнае месца ў свеце.

Гэта здарыцца толькі пры ўмове, калі нам удасца:

абудзіць люд ад абыякавасці за свой лёс, лёс сваіх дзяцей і ўнукаў;

вярнуць яму веру ў Бога і матчыну мову;

дапамагчы пазбавіцца генетычнага страху, які робіць з чалавека раба;

навучыцца даражыць сваёй свабодай;

усталяваць справядлівасць і адказнасць, аднолькавую для ўсіх і ва ўсім;

вывесці народ з багны беспрабуднага п'янства, стварыць умовы для адраджэння ўласніка.

Відаць, нам для гэтага патрэбен свой Майсей!..

Можна -- і трэба -- доўга і глыбока разважаць на гэтую тэму, але корань, здаецца, менавіта ў гэтым.

Алесь ШАТЭРНІК, скульптар.

**Моцна просім не забывацца пераслаць гадавую *Ахвяру* на Выдавецкі Фонд нашае газэты!**





IN MEMORIAM

Памёр ведамы беларускі патрыёт —
## КАСТУСЬ КАЛОША

Кастусь Калоша большую частку свайго жыцьця пражыў у Кліўлендзе, ЗША., дзе быў вельмі актыўным працаўніком на грамадзкай, царкоўнай і палітычнай беларускай ніве.

Здабыўшы асьвету інжынера, Кастусь Калоша выдатна спалучаў сваю патрыятычна-беларускую і прафэсійную дзейнасьць.

Быў шчыра-сяброўскім, гасьцінным, надзвычай працавітым і аданым беларускай ідэі.

На старасьць, захварэўшы, пераехаў у Баранавічы, Беларусь дажываць свой век, дзе і памёр.

Сьпі пад курганам героя́ў,
Сьпі працаўнік і змагар.
Несены верна табою,
Ціха схіліўся штандар!

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

# Школа пагранічча

**Школа пагранічча «Беларуска-польскае памежжа: гісторыя, культура, мова» пачала працаваць 25 жніўня ў Гродне.**

Яе арганізатары – Гродзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы, фонд «ОРТА» Варшаўскага ўніверсітэта, а таксама кафедра беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта. Падтрымку правядзенню гэтай сустрэчы аказвае Дзяржаўны Камітэт памежных войск РБ.

Слухачы школы пагранічча – каля сарака маладых навукоўцаў з Беларусі, Польшчы, Украіны і Літвы. Да 8 верасня яны будуць займацца ў Гродне, а затым на тыдзень перабяруцца ў Варшаву. На Гродзеншчыне гасцей зацікавіў досвед лабараторыі рэгіянальнай культуры нашага ўніверсітэта. Пад кіраўніцтвам гродзенскіх спецыялістаў яны правядуць даследаванні ў вёсках, што размешчаны паблізу Аўгустоўскага канала: зоймуцца запісам успамінаў мясцовых жыхароў, вывучэннем моўнай і этнаканфесійнай сітуацыі на памежжы.

Урачыстае адкрыццё школы пагранічча адбылося ў актавай зале Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Гасцей віталі прадстаўнікі абласной і гарадской выканаўчай улады. А затым з дакладамі выступілі нашыя вядомыя навукоўцы, якія глыбока ведаюць праблемы памежжа: прафесары Аляксей Пяткевіч і Адам Мальдзіс.

Вось асобныя моманты з выступу Аляксея Міхайлавіча. Ён нагадаў пра выдатных прадстаўнікоў культуры беларускага памежжа – Зоську Верас, Ларысу Геніюш, Алеся Белакоза, Апанаса Цыхуна, Аляксандра Шыдлоўскага. На думку прафесара, жыхары Гродзеншчыны і сёння зьяўляюцца носьбітамі глыбокіх пластоў традыцыйнай народнай культуры. Так званы «заходнік» – асоба адносна высокага ўзроўню нацыянальна-патрыятычнай свядомасці, здольная да ўспрымання ўсяго новага.

Адам Мальдзіс лічыць, што мы павінны пашыраць у свеце інфармацыю пра Беларусь. Найперш – пра нашую гісторыю, пра Вялікае Княства Літоўскае, якое было супольнай беларуска-літоўскай дзяржавай, – адной з самых буйных у тагачаснай Еўропе. Нельга забывацца і пра Полацкае, Тураўскае, Навагрудскае княствы, якія былі высокацывілізаванымі дзяржавамі. Дзяржавамі, якія стварылі беларусы. Нашае кнігадрукаванне зьявілася раней, чым у Расіі. А самы прагрэсіўны для свайго часу звод законаў – Літоўскі Статут – быў напісаны на старажытнай беларускай мове. Так што мы павінны ганарыцца сваімі продкамі...

Праца школы пагранічча толькі пачалася. Але няма сумнення, што маладых навукоўцаў– гасцей Гродна – чакае яшчэ многа цікавага, што істотна пашырыць іх веды і ўяўленні аб гісторыі і культуры Беларусі.

Міхаіл ВАСІЛЕВІЧ (Б. Інф.)

# "Новы час" - наперадзе

У Беларусі зьявілася новая недзяржаўная масава-палітычная газэта, якая называецца **"Новы час"**. Заснавальнікам выданьня выступіла Менская гарадзкая рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, а галоўным рэдактарам "Новага часу" стала старшыня рады Алена Анісім. Аднак газэта не зьбіраецца "замыкацца" на моўных і культурніцкіх тэмах, а імкнецца стаць уплывовым выданьнем для масавага чытача. Пра гэта паведамілі 29-га жніўня на прэзэнтацыі кіраўнікі рэдакцыі "Новага часу".

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Скарыніч.** Выпуск 5. Літаратурна-навуковы гадавік. "Беларускі кнігазбор". Менск, 2002, 223 бач.
2. **Бацька наш Нёман.** Вершы, апавяданьні, нарысы, эсэ. Укладальнік Яўген Хвалей. Многа каляровых здымкаў. Менск, 2001, 512 бач.
3. **Беларуская Думка.** Грамадзка-палітычны і літаратурна-мастацкі часапіс. № 50. Нью-Ёрк — Саўт Рывэр. 2002, 53 бач.



# ВІНШУЕМ

з 85-мі ўгодкамі жыцьця

**Др. Язэпа Сажыча**

былшага старшыню Рады БНР, шматгадовага і адданага працаўніка на беларускай ніве, заслужанага вайсковага дзеяча, самаахвярнага патрыёта Беларусі і Амэрыкі, шчырага палітычнага, царкоўнага і грамадзкага дзеяча ў ЗША.

Жадаем добрага здароўя, усяго найлепшага і далейшага служэньня Беларускай Справе!

*СТО ГОД!*

# Беларускаму літаратуразнаўцу і пісьменніку Адаму Мальдзісу -- 70 гадоў

Зробленага гэтым чалавекам і вучоным, відавочна, хапіла б і хопіць на многія жыцьці. Шасьцітомны біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменьнікі", без якога зараз не тое што сур'ёзнаму даследчыку гісторыі літаратуры, а настаўніку ўжо не абысціся. Стварыў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны (а колькі ж матэрыялаў у ім па беларусістыцы -- многія архівы могуць пазайздросціць!). Заснаваў Міжнародную асацыяцыю беларусістаў (праведзены некалькі міжнародных кангрэсаў, выдадзены больш як два дзесяткі тамоў з дакладамі). Выдае часопіс "Кантакты і дыялогі". Падрыхтаваў з калектывам паплечнікаў сапраўдную энцыклапедыю "Хто ёсць Хто сярод беларусаў свету" (адна частка -- пра беларусаў блізкага замежжа -- выдадзена). Распачаў (ізноў жа -- першая кніга выдадзена) краязнаўчы даведнік "Літаратурныя мясціны Беларусі" (выданне такога характару ці не першае як у Беларусі, так і ў Расіі)... І гэта ўсё -- Мальдзіс. І не толькі гэта.

Даводзілася слухаць Адама Іосіфавіча ў самых розных аўдыторыях. Кожнае яго выступленне -- збор прапаноў, ідэй, часам неверагодных, але неверагодных толькі на першы погляд... Гэта Адам Мальдзіс выказаў ідэю выдання збору твораў Аляксандра Ельскага (вось дзе агромністыя краязнаўчыя скарбы былі б адкрыты шырокаму чытачу!). Гэта Адам Мальдзіс -- генератар ідэі адраджэння многіх гістарычных сядзіб і, адпаведна, арганізацыі таварыства руплівцаў гэтай справы... Ці збудзецца ўсё?.. Павінна збыцца, бо за Мальдзісам ідуць наступнікі.

***************************************************

# Усе мы родам з дзяцінства

Словы В. Шніпа — Музыка З. Яўтуховіча







Недзе там, за гарамі,
Там, дзе сонца начуе,
Ёсьць краіна дзяцінства.
Недзе там, за лясамі
Белай птушкай вандруе
І сьпявае дзяцінства.
Усе мы родам з дзяцінства,
Усе мы родам з дзяцінства.
Не забыць нам дзяцінства краіну —
Дзе мама маладая,
Дзе ля вакна рабіну
Вясёлы вецер калыхае.

*Прыпеў:*

І плыве нада мной,
Над табой і над сьветам
Голас мой, голас твой.



Усе мы родам з дзяцінства,
Усе мы родам з дзяцінства —
Гора тым, хто забыўся пра гэта.
І сягоньня з табою
Мы у думках зьлятаем
У краіну дзяцінства.
Пасьвятлеем душою —
Як ізноў пабываем
У краіне дзяцінства.
Усе мы родам з дзяцінства,
Усе мы родам з дзяцінства.
Не забыць нам дзяцінства краіну —
Дзе мама маладая,
Дзе ля вакна рабіну
Вясёлы вецер калыхае.

*Прыпеў:*

